PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 21 (2089) Год XLI Беласток 26 мая 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Матура'96.* Артыкул пра матуры ў ліцэях з беларускай мовай навучання чытайце на стар. 5.

Міра Лукша

## Наш лес

*Цямнее лес (душа жывая),*
*Гайдае спеў (на злосць бядзе).*
*Лес — беларус (усё стрывае),*
*Маўчыць, як дол (а ствол гудзе).*
*Рыгор Барадулін*

**— Нам дзееццa крыўда, а вы нас не толькі не абараняеце, але на ўсё прымыкаеце вочы, — радны Нараўчанскай гміны Яўген СМОЛЬСКІ** мае вялікі жаль да „Нівы". — Як прадстаўляюць тэму Белавежскай пушчы і нацыянальнага парку і нас у гэтай справе іншыя газеты — проста скандал! Для жыхароў падпушчанскіх вёсак, для Нараўчанскай і Белавежскай гмін, для беларускага асяроддзя, якое тут трымаецца, гэта можа быць трагедыя! Тэма ўжо цягнецца больш года. Некаторыя паслы, як пан Кшыштаф Вольфрам, аж захлёбваюцца ад таго, што быццам жыхары нашых вёсак не разумеюць, у чым справа. Быццам гміны не хочуць узяць 9 мільёнаў злотаў вельмі лёгкіх крэдытаў! Але трэба ведаць, што гэтыя крэдыты цягнуць абавязкі і ўмовы — трэба мець сваіх столькі ж, каб той крэдыт узяць. Не дай Божа праз нейкі час тых варункаў не выпаўнім — мусім вяртаць крэдыт з працэнтамі. Некаторыя эколагі прапануюць увогуле высяліць згэтуль людзей, значыць, беларусаў. „Ніва" павінна быць нашай трыбунай, а не інфармаваць „з другой рукі", за крыніцамі, якія нам папраўдзе не спрыяюць.

Ужо год друкаваліся ў газетах інфармацыі аб прапановах або нават ужо быццам здзейсненых фактах „пашырэння" Белавежскай пушчы як нацыянальнага парку. Белавежскі парк займае абшар 5 400 га, рэшта польскага адрэзка пушчы (больш за 63 тыс. га) гэта гаспадарчыя лясы, адміністраваныя надлясніцтвамі. У мінулым годзе даведваліся мы з друку, што „на пачатку наступнага года абшар Белавежскай пушчы пабольшыцца на 5 200 гектараў, перш за ўсё ў заходнім і паўночным напрамку аж па Масева". Апошняе рашэнне мае быць у руках Рады Міністраў, а „ўслед за ім пойдуць адпаведныя сродкі на рэалізацыю заданняў, пабольшанне колькасці работнікаў пушчы — леснікоў і стражнікаў". На пачатку 1996 г. газеты інфармавалі ўжо аб факце „пашырэння пушчы". Той, хто займаецца лесам, перш за ўсё супрацоўнікі Рэгіянальнай дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Беластоку звярталі ўвагу на тое, што будзе ўзнікаць дубліроўка ведамстваў, пабольшанне колькасці штатаў якраз у адміністрацыі, што для самой пушчы не будзе даваць аніякай карысці. Гжэгаж Бялецкі, начальнік Аддзела аховы лясных экасістэм у РДДЛ сказаў:

— Статус перанятай Дырэкцыяй нацыянальнага парку часткі лясоў не будзе зменены. Астануцца яны, так як дагэтуль, частковым рэзерватам, дзе можна будзе секчы дрэвы. Тут справа толькі ў шыльдзе, а не ў падыходзе да лесу. Мы не ў змозе замяняць усё большыя абшары пушчы ў строгі рэзерват. Лясы мусяць быць ахоўваемыя, але павінны і прадукаваць.

На шчыры і рэалістычны адказ лесаводаў рэакцыя „эколагаў" бывае істэрычная. Шмат з іх не разумее таго, што высечка хворых, старых дрэў і ачышчанне лесу, пры аблясенні новым дрэвастоем — неабходная для здароўя лесу і экалагічнай раўнавагі. Славутая была просьба (больш сказаць: рашучае жаданне) групы маладых эколагаў, устрывожаных лёсам пэўнага дзятліка, каб лесаводы пакідалі дрэвы занятыя караедам-тыпографам, якім корміцца той дзятлік. Калі тая вельмі рэдка сустраканая птушчака не будзе мець корму, прападзе. А тое, што заражаныя дрэвы могуць давесці да знішчэння аграмадных абшараў лесу, не было істотным для энтузіястаў дзятліка. Тэарэтыкі экалогіі на ўвесь свет крычаць пра гібель пушчы, збіраюць подпісы

(працяг на стар. 3)

Ганна Кандрацюк

## Пажараманія ў Дубне

**Пра пажары ў Дубне распавядаюць па ўсёй Беласточчыне. На працягу апошніх двух гадоў гарэлі там некалькі разоў лес, стадолы, гаспадарчыя будынкі, магазін.**

У канцы красавіка ў Дубне зноў гарэў лес. Пажар глытануў сем гектараў сасновага лесу, кавалак маладняку. З Нінай Гуральчук і Аляксандрам Рыбачуком едзем паглядзець тое месца. Хаця мінуў тыдзень ад здарэння, дзе-нідзе дыміць яшчэ мох.

— Лес пагасіць няпроста, — паясняе Аляксандр Рыбачук, вопытны пажарнік. — Патушыш здаецца ўсё, а зямля і так яшчэ гарыць. Як з торфам.

Абгарэлыя сосны наводзяць страшныя асацыяцыі. Недарма нашыя продкі пасылалі ў замовах „усякую труднасць і нечысць" „на сухі лес", „на сухое дзерава".

— Калі б не спынілі агню, то і вёска магла б пайсці з дымам, — гавораць у Дубне.

Вёска мяжуе з лесам. На дадатак большасць сядзіб пабудавана з дрэва.

— Быў аўторак, — успамінае Ніна Гуральчук. — Недзе ў тры гадзіны пасля абеду ўсё пачалося. Пажар заўважылі хлопцы. Якраз стаялі на вуліцы і чакалі грузавіка, які купляць бульбу да нас прыязджае. Яны пабеглі ўключыць сірэну. Людзі павыбягалі на вуліцу і бачаць, што лес гарыць. Зараз жа і наехала пажарнікаў. Апрача мясцовых былі і боцькаўскія і бяльскія. І з вёскі людзі пабеглі. Усе пажар гасілі.

— Калі гарыць лес, то цяжка гасіць, — гаворыць Аляксандр Рыбачук. — Шалёны гул і ляскат агонь разносіць. Як ашалелы гудзе агонь па вершалінах, маланкава скача, дым і духата міжвольна ўзад адкідаюць. Насмерць чалавек змагаецца са стыхіяй. Пашчасцілася тады. Хутка дубінцы агонь затрымалі. Аднак аддыхаць ім доўга не давялося. Адвячоркам пажар успыхнуў нанава.

А сёмай зноў загудзела сірэна. І выглядала, што нехта нарокам падпаліў, — гавораць у вёсцы.

Зноў пачалося змаганне з агнём. Зноў лямантавалі і плакалі жанчыны. Агонь пакарылі і гэтым разам. У Дубне, недарма, найлепшая на ўсю гміну пажарная каманда. Сам Аляксандр Рыбачук чатыры медалі мае. Пасля поўначы зноў гарэў лес. І ўся вёска яшчэ раз паднялася на ногі.

— Цяпер гарэла ўжо ў свежым месцы. Нейкі кіламетр ад папярэдняга пажару. Пазней нават запалкі найшлі.

* * *

— Было ўжо цёмна, — успамінае Надзея Алексяюк з Дубна. — Хлопец старэйшы ў Бельск паехаў, я распранулася і спаць ужо лажылася. Але ж бачу,

(працяг на стар. 10)

# Мы прачыталі

* * *

*Trzy razy w ciągu ostatniego miesiąca Białorusini demonstrowali na ulicach Mińska. Za każdym razem gwałtownie domagano się swobód obywatelskich i ustąpienia prezydenta Aleksandra Łukaszenki. Coraz brutalniej atakowała milicja. Oznacza to, że Łukaszenko stracił kontrolę nad nastrojami społeczeństwa, a Białorusini przestali się bać.*

*Polityka, nr 19*

Тым часам лукашэнкаўская прэса піша:

* * *

*Аляксандр Лукашэнка вырас і сфармаваўся на гераічнай зямлі Магілёўшчыны. Палітык з развітым інтэлектам, гнуткім мысленнем, выдатнай аператыўнай памяццю. Усё гэта спалучаецца з цвёрдай воляй, рашучасцю, паслядоўнасцю дасягнення пастаўленых мэтаў. Валодае дарам народнага трыбуна і парламенцкага прамоўцы. Прэзідэнт-рамантык, які змагаецца за ўвасабленне народнай мары аб справядлівасці, прэзідэнт-прагматык з чуллівым успрыняццем праблемаў сучаснасці, прэзідэнт-наватар, які ўпарта шукае трэці шлях выхаду з крызісу і дасягнення народнага дабрабыту, палітычны воін, які выдатна трымае ўдар апазіцыі. Прэзідэнт — асоба з высокім аўтарытэтам і пачуццём асабістай годнасці,* — сказаў Васіль Храмаў, доктар палітычных навук.

*Советская Белоруссия, 4.05.1996*

Выглядае на тое, што пасля смерці Нікалае Чаўшэску і Кім Ір Сена такога генія да гэтага часу ў свеце не было.

* * *

*Polskę zalewa fala zainteresowania Białorusią. Odczuwam to na własnej skórze. Wielu Polaków podejrzewa, i słusznie, że poza Łukaszenką i Paźniakiem istnieją jeszcze inni Białorusini. Jak oni wyglądają? Niestety, w moim Otwocku jestem chyba jedynym Białorusinem, jak Sokrat Janowicz w Krynkach. Z tego też powodu moje mieszkanie także staje się celem pielgrzymek. Ludzie, napatrzywszy się na Białorusina i jego dzieci, chcą czegoś dowiedzieć się o tych dotychczas bliżej nie znanych Słowianach,* — піша Міхал Болтрык.

*Przegląd Prawosławny, nr 5*

У Беластоку ёсць яшчэ прынамсі некалькі дзесяткаў асоб нашай нацыянальнасці, а ў Менску — нават некалькі дзесяткаў тысяч. Жыве Беларусь!

* * *

*Dekretem prezydenta Aleksandra Łukaszenki flaga państwowa ZSRR będzie wywieszana wraz z białoruską podczas świąt państwowych, wojskowych i narodowych uroczystości. A w Białymstoku został zbeszczeszczony portret Łukaszenki.*

*Gazeta Wyborcza, nr 105*

Ходзяць чуткі, што апаганілі тут партрэт Аляксандра Рыгоравіча нейкія беларусы. Неверагодна!

* * *

*Jeden zagon zdrowszy, dla siebie, i drugi z uprawami na sprzedaż, skropiony nielitościwie chemią — taką dwupolówkę uprawiają nasi rolnicy, a współrządząca partia PSL dba, żeby ich nic nie zmusiło do zmiany obyczaju. W ten sposób jedna trzecia narodu podtruwa pozostałe dwie trzecie. Nasze menu jest przesycone związkami ołowiu i fosforu, nieświeżym tłuszczem i swojskim brudem. Przytłaczająca większość Polaków przyzwyczaiła się do obcej chemii i rodzimych bakterii, ale w naszych organizmach odkładają się grzechy kulinarne całego życia i pod koniec — wcześniejszy niż należy — wystawiają rachunek.*

*Aż 36% wyrobów mięsnych przebadanych przez PIH było nadmiernie nafaszerowanych chemią. Mięso jest nadmiernie faszerowane rakotwórczymi azotynami i azotanami. Z roku na rok nie wiedząc o tym zjadamy coraz więcej związków fosforu. Najobficiej nafaszerowane są nim apetyczne szyneczki. Fosfor wiąże wodę, dzięki czemu wędlina zyskuje na urodzie i na wadze. Poprawia konsystencję i wygląd serów żółtych i topionych. Pozwala szybciej zagotować się makaronom, spulchnia wyroby cukiernicze. Pełno go w napojach typu cola, kawie rozpuszczalnej, budyniach, chipsach.*

*Polityka, nr 18*

* * *

*Чым горш жывем, тым больш адпачываем.*

*Свабода, н-р 30*

Вельмі слушная філасофія.

* * *

*„Niwa" dziś jest to raczej pismo miejskie. Nie przeszkadza to jednak najbardziej wiernym czytelnikom, którzy do tej pory nie stracili kontaktu z tym jedynym w swoim rodzaju pismem. Są to Dziadźka Kwas i Dziadźka Lawoń. Mało, że czytają, to jeszcze piszą,* — інфармуе сваіх чытачоў

*Kurier Podlaski, nr 86*

Рэдакцыя „Кур'ера" мае непасрэдную сувязь з нашымі былымі карэспандэнтымі, якія даўно ўжо адышлі з гэтага свету. Прыемна нам, што не парвалі яны кантактаў з „Нівай" і чытаюць яе недзе ў небе. На жаль, іхнія карэспандэнцыі неяк па дарозе прападаюць. Як высветлілася нядаўна, нам адрасаваныя лісты пераймае Казё Семяняка, журналіст „Кур'ера", сябра ўсіх беларусаў, нават тых, што пабываюць недзе ў касмічнай прасторы.

# З мінулага тыдня

**82 млн. чужаземцаў** наведала ў мінулым годзе Польшчу (на 11,3% больш, чым год раней). Найбольш узрасла колькасць турыстаў, якія перасякаюць граніцу з усходняга і паўднёвага напрамкаў. Статыстычны чужаземец выдаў у Польшчы 131,13 зл., купляючы галоўным чынам вопратку, абутак і харчовыя прадукты. Украінцы найбольш грошай выдалі на пакупку рыбы, беларусы і расіяне — на цытрусавыя фрукты і мяса, а літоўцы — на кандытарскія вырабы, каву і гарбату. Аказваецца, што найбольш узрасла колькасць грошай, выдадзеных у Польшчы беларусамі (на 250%), украінцамі (73%) і літоўцамі (68%), а грамадзяне Беларусі вывезлі з Польшчы больш тавараў, чым складае ўвесь афіцыйны экспарт з Польшчы ў гэту краіну.

**Урад і Міністэрства замежных спраў** не прадугледжваюць выдання спецыяльнага камюніке ў справе пікета перад Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь у Беластоку і выказванняў на гэту тэму генеральнага консула **Міхаіла Слямнёва**, — заявілі прэм'ер-міністр **Владзімеж Цімашэвіч** і прэс-сакратар МЗС **Павел Дабравольскі**. Першамайскі пікет перад консульствам у Беластоку быў праведзены згодна з законам, а ў яго ходзе не дайшло да парушэння правапарадку. Спаленне партрэта прэзідэнта, які ў польскім заканадаўстве не лічыцца дзяржаўным сімвалам, не падвяргаецца прыцягненню да крымінальнай адказнасці, хаця можа выклікаць асуджэнне. Прэс-сакратар адзначыў таксама, што ўлічваючы апошнія здарэнні на Беларусі, польскае МЗС выказвае спадзяванне, што працэс дэмакратызацыі ў гэтай краіне не будзе спынены, а пашана для грамадзянскіх правоў стане асноўным прынцыпам грамадскага жыцця ў Беларусі.

**Парламенцкі клуб Уніі працы** выступіў да ўрада з патрабаваннем выказаць сваю пазіцыю ў справе парушэння прэзідэнтам **Аляксандрам Лукашэнкам** грамадзянскіх правоў у Беларусі. Парламентарыі ад УП палічылі гэту справу вельмі важнай з увагі на нядаўнюю сустрэчу прэзідэнтаў абедзвюх краін і заявілі аб падтрымцы для беларускай апазіцыі ў яе барацьбе за дэмакратычныя свабоды.

**Сяргей Навумчык** — адзін з лідэраў БНФ, сустрэўся ў Варшаве з дэпутатамі Сейма і Сената. Пятнаццаць парламентарыяў выступілі з ініцыятывай прыняць ад імя Сейма адмысловую заяву з патрабаваннем неадкладнага вызвалення з-пад арышту **Юрыя Хадыкі** і **Вячаслава Сіўчыка**. У заяве, падпісанай парламентарыямі пасля сустрэчы адзначаецца, што арышты лідэраў беларускай апазіцыі нагадваюць часы панавання камуністычнага рэжыму.

**Канферэнцыя на тэму сакральнага будаўніцтва**, у якой прымалі ўдзел навукоўцы ды каталіцкія і праваслаўныя духоўныя, адбылася ў Політэхнічнм інстытуце ў Беластоку. У ходзе канферэнцыі адзначаліся недахопы ў архітэктуры касцёлаў, якія будаваліся ў апошніх гадах. Словы прызнання былі накіраваны ў адрас архітэктараў, якія ствараюць праекты для Праваслаўнай царквы. Нягледзячы на тое, што ў царкоўным будаўніцтве абавязваюць строгія каноны, архітэктары лепш сумелі дастасавацца да патрабаванняў сучаснасці.

У першым этапе трэцяга выпуску конкурсу Фонду культуры **Малыя айчыны — традыцыя для будучыні** журы прыняло для выканання 12 праграм з ліку дасланых 114. Сярод вылучаных распрацовак апынулася праграма **Дарафея Фёніка** „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча". Праграма „Малыя айчыны" рэалізуецца Фондам культуры з 1993 г. з мэтай развіцця культурных цэнтраў у лакальных асяроддзях.

# Весткі з Беларусі

**Замарожаны крэдыт**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся ў Менску з прадстаўнікамі Сусветнага банка. Сустрэча была прысвечана падрыхтоўцы пагаднення аб фінансавай падтрымцы банкам эканамічных рэформ у рэспубліцы. Між тым крэдыт 37 млн. долараў, які дадзены Беларусі ў гэтым годзе, замарожаны, таму, што на думку спецыялістаў банка, у рэспубліцы ў недастатковай меры праводзіцца праграма прыватызацыі.

**Сцяг перамогі**

Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб сцягу перамогі. У дні дзяржаўных святаў рэспублікі, пры правядзенні воінскіх рытуалаў і народных урачыстасцей у гонар ратных подзвігаў народа Беларусі дублікат і сімвал сцяга перамогі і дзяржаўны флаг СССР выкарыстоўваецца разам з дзяржаўным флагам Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым прадугледжана дублікат сцяга перамогі выносіць 9 мая — у Дзень перамогі, 23 лютага — у Дзень абаронцаў айчыны і 3 ліпеня — у Дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

**Вызваленне ўкраінцаў**

Частка ўкраінскіх грамадзян, затрыманых у Менску 26 красавіка падчас апазіцыйнай дэманстрацыі, якая закончылася сутыкненнямі з міліцыяй, была вызвалена ў палове мая. Дзесяць удзельнікаў дэманстрацыі з Украіны, якія з'яўляюцца членамі права-радыкальнай арганізацыі УНСО, былі асуджаны на тэрміны адміністрацыйнага зняволення ад 10 да 15 сутак. Па словах саветніка пасольства Украіны ў Менску Уладзіміра Салаўя, дзейнасць дыпламатычнага прадстаўніцтва ў гэтым пытанні накіравана была на тое, каб вызваліць затрыманых і звесці да мінімуму магчымыя ўскладненні на міждзяржаўным узроўні.

**За правы дзіцяці**

Першае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці адбылося ў Кабінеце Міністраў. На думку яго ўдзельнікаў, неабходна стварыць органы аховы дзяцінства ў складзе структур мясцовых, гарадскіх і абласных выканаўчых камітэтаў. Зараз 113 раённых і гарадскіх органаў адукацыі маюць толькі па адным інспектары па ахове дзяцінства, а ў 67 наогул адсутнічаюць такія штатныя адзінкі. Сумесна з Дзіцячым фондам Нацыянальная камісія па правах дзіцяці плануе выдаваць газету „Дзеці і мы". Першы яе нумар у абноўленым выглядзе ўбачыць свет напярэдадні Міжнароднага дня абароны дзяцей — 1 чэрвеня.

**Суседскае супрацоўніцтва**

Актыўнае супрацоўніцтва пачалі Беларуская гандлёва-прамысловая палата, Саюз прадпрымальнікаў Беларусі і Беластоцкая ўсходняя біржа. Пры пасрэдніцтве палякаў за апошні час рэспубліцы прададзена шмат мукі, масла, алею, агародніны, садавіны. На польскі рынак з Беларусі паступілі драўніна, сталь і некаторыя віды паліва.

**Юбілей выдання**

У Гродне адбылася канферэнцыя „Перыядычны друк Гродзеншчыны — станаўленне, развіццё, сучаснасць". Прысвечана яна 220-годдзю з дня выхаду „Газеты гродзенскай" — першага перыядычнага беларускага выдання, якое пачало свой шлях у маі 1776 г. Канферэнцыю арганізавала Упраўленне культуры і інфармацыі Гродзенскага аблвыканкама і Абласная бібліятэка імя Яўфіма Карскага.

**Юбілей кінакарціны**

Спаўнілася трыццаць гадоў з часу выхаду на экраны мастацкага фільма „Альпійская балада" паводле аповесці Васіля Быкава. Гэтай падзеі быў прысвечаны вечар у Саюзе кінематаграфістаў Беларусі. Адбыўся прагляд фільма, а таксама сустрэча з некаторымі з яго стваральнікаў.

**Перажыў сваю смерць**

З нагоды Дня перамогі на адрас мянчаніна Мікалая Ануфрыева прыйшлі віншавальныя паштоўкі з Харкаўскай вобласці. Былы салдат Вялікай Айчыннай вайны вызваляў абласны цэнтр. Тады палічылі яго загінуўшым і на магілках пад Харкавам ёсць нават магіла і помнік з прозвішчам салдата ды з датамі нараджэння і гібелі. Сам Ануфрыеў мо ніколі і не даведаўся б пра сваё ўласнае пахаванне, але ўкраінскія юныя следапыты адшукалі магілу, а потым знайшлі і яго адрас у Менску. Такім чынам салдат вайны перажыў сваю смерць больш чым на паўстагоддзя.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Размова Міколы Ваўранюка з паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктарам Бурскім.**
- **Чыжоўская панарама — рэпартаж Ады Чачугі.**
- **Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.**

# Наш лес

*(працяг са стар. 1)*

супраць высечкі дрэў і гатовы выселіць усіх яе жыхароў, апрача жывёл, а лесаводаў пачынаюць трактаваць як рабаўнікоў усясветнага багацця — лесу.

Паявіліся нават інфармацыі тыпу „1 студзеня 1996 г. абшар Белавежскага нацыянальнага парку ўжо пабольшаны на амаль 100 працэнтаў". Такія весткі перадрукоўвалі газета за газетай. „Сеймавая Камісія аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лесаводства палічыла неабходным пабольшанне тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку на 17 тысяч гектараў (дасюль планавана — на 5 400 га), — інфармаваў быў К. Вольфрам ужо 29 мая 1995 г. — Камісія тая палічыла неабходным таксама ўвядзенне забароны высечкі дрэвастою з думкай аб мэце абняцця формай нацыянальнага парку абшару ўсяе пушчы". Дарадчы орган Міністра аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лесаводства — Навукова-грамадская рада, у склад якой уваходзяць навукоўцы, лесаводы, прадстаўнікі самаўрадаў, экалагічных асяроддзяў, грамадскіх і прафсаюзных арганізацый, дрэваапрацоўчай і лясной прамысловасці не раз збіраліся, каб ацаніць рэалізацыю прынцыпаў дзеяння для аховы і лесаводства на абшары пушчы. „Пабольшанне Белавежскага нацыянальнага парку — гэта ўрадавае рашэнне, ад якога няма кроку назад", — супакойваў эколагаў дырэктар Дэпартамента аховы прыроды Ян Врубель у лютым 1996 г. Раней „Газета выборча" інфармавала, што міністэрства гэты праект зняла з прычыны пратэстаў пушчанскіх гмін, якія даслалі 12 тысяч подпісаў супраціву жыхароў. У сапраўднасці гэтых подпісаў было некалькі соцень. А за „Вялікай пушчай" з усяе Польшчы і з-за мяжы Міністэрства прыняло 120 тысяч подпісаў. Міністэрства прыняло ў такім выпадку праект падвойнага пабольшання (да каля 11 тыс. га) сённяшняга парку і згодны ён з рашэнем урада ў справе напрамкаў ахоўвання пушчы і з замацаваннем за гэтай мэтай фінансавых сродкаў. Гэта распараджэнне не было яшчэ падпісана з прычыны абавязку ўзгаднення з зацікаўленымі гмінамі формы фінансавых кампенсацый.

**Анна Байко**, войт Белавежскай гміны (якой абшар у 90% займае лес), сказала:

— Мы ўсе за аховай прыроды, але гміна з чагосьці мусіць жыць. Лясны падатак прыносіў гміне больш за 200 тысяч зл. З лесу ўтрымліваюцца нашы жыхары. Каб уводзіць ахову пушчы, трэба нам дадатковыя грошы.

У друку паявіліся новыя інфармацыі, тэксты, якія практычна абсмейвалі рашэнне праўленняў дзвюх гмін — **Нараўчанскай і Белавежскай**, якія пакуль не хочуць падпісаць раней апрацаванага і абгаворанага дакумента. „Przedstawiciele gmin (...) wyśmieli ministra" (гэта з „Газеты вспулчэснай"). Журналіст Марэк Гжэськевіч, пасля даўгаватага ўступу пра тое, якая ідылічная атмасфера была на сустрэчы з міністрам Станіславам Жаліхоўскім у Белавежы (інфармацыя пра бутэрброды была больш істотная, чым пра крэдыты). „Gminni notable", якія быццам „патрактавалі сустрэчу з міністрам як гаспадарчы візіт партыйных сакратароў" перабівалі сонную атмасферу жалямі, чаго ім бракуе і просьбамі дапамогі. Міністр спяшаўся падпісаць дамову, чакаў яго візіт у Беластоку. А гміны сказалі: няма чаго спяшацца, не можам цяпер нічога падпісваць!!! Такі скандал!!! Гміны хочуць страціць 90 мільярдаў старых польскіх злотаў на будову дарог, каналізацыі, газаправодаў!.. Мечыслаў Янушэўскі, старшыня Беластоцкага самаўрадавага сейміка „лапаўся за галаву", што гміны, якіх бюджэт гэта ледзьве частка такіх грошай, адкідаюць манну з неба. Значыць, справа будзе цягнуцца яшчэ найменш паўгода. Зноў міжміністэрскія перамовы, дыскусіі ў Радзе Міністраў... Міністр дадаў пасля, што падпісанне пагаднення можа давесці да таго, што справа пашырэння нацыянальнага парку і фінансавага ўспамагання гмін можа адцягнуцца і на некалькі гадоў. „Кур'ер паранны" даў загаловак: „Белавежскі парк стаў аўкцыённым козырам. Нараўка падбівае стаўку". А міністр прывёз жа *прапановы, дэкларацыі і абяцанне* „на патрэбы інвестыцый у галіне аховы асяроддзя, на якія гміны ўжо маюць дакументацыю альбо яна ў тракце апрацоўвання, прадстаўленыя ў Нацыянальным фондзе аховы асяроддзя ў форме канкрэтных прапаноў". Нараўчанская гміна мела б за гэтыя грошы (4,5 млн. зл.) пабудаваць ачышчальню сцёкаў, гмінны сметнік, каналізацыю ля „Семяноўкі", станцыі падгатоўкі пітной вады ў пяці вёсках, Белавежская — санітарную каналізацыю, сметнік, станцыі падгатоўкі пітной вады, ачышчальні сцёкаў у вёсках, газіфікаваць тэрыторыю...



*— „Ніва" павінна быць нашай трыбунай, — кажа Яўген Смольскі.*

Пакуль што гмінныя рады адкінулі пагадненне, будуць старацца за больш канкрэтныя варункі.

— У гэты момант гміна не ў змозе рэалізаваць неабходныя экалагічныя інвестыцыі. А за словамі міністра — абяцанні, — кажа Яўген Смольскі. — Каб атрымаць дапамогу, гміна ўжо на этапе праектаў мусіць выдаць вялікія грошы. Нашы гміны бедныя, і калі ўлезем у такія крэдыты, то ўтапіцца можам. А дапамога прыдалася б яшчэ большая, на водаправоды, тэлефанізацыю, мадэрнізацыю дарог...

І людзі.

— Не забывайце ў „Ніве" пра нашых жыхароў, — яшчэ раз зазначае Я. Смольскі. — Тут жыве ваш чытач. Не пакідайце нас у бядзе, інфармуйце, абараняйце, палемізуйце. Пішыце праўду. Згіне наш тут кавалачак свету — прападзе і „Ніва". **Міра Лукша**

# Чароўнасць вясны

На пачатку мая, як кожны год, прыгожа зрабілася на свеце. Калі ў красавіку ў беластоцкіх перыферыйных кварталах пачынаў раставаць снег, на чорнай зямлі заблішчэлі кансервавыя банкі, пластмасавыя бутлі, дакладна абгрызеныя косці, упакоўкі ад снікерсаў і гэтаму падобныя сляды нашай цывілізацыі. Кашмар. А цяпер, калі ласка, пад зялёным дыванам, так як зімой пад белай пярынай, недзе схавалася амаль усё смецце.

„Мястовы" люд вельмі разумны, лічыць добра ўмее. Каб пазбыцца непатрэбных адпадкаў, трэба купіць вялікі кош і штомесяц плаціць 10 злотаў за тое, што яго змесціва спецыялісты з адпаведных фірмаў будуць падбіраць пастаянна. Але можна і больш ашчадна. Амаль на кожнай вуліцы такіх кварталаў як Пячуркі, Пжэмыслова, Дайліды, Засценкі ёсць пустыя пляцы, якіх уласнікі жывуць часам у іншых мясцовасцях. Там найчасцей трапляе непатрэбная мэбля, дзіравыя гарчкі, а часам нават пральныя машыны. Калі няма такой плошчы, справа больш складаная. Непатрэбныя прадметы, вопратку, упакоўку трэба везці далей. А ёсць куды. Вакол Беластока прыгожыя лясы. Ужо цяпер з'яўляюцца яны найбольшым „комісам" вытворчасці родам з васьмідзесятых гадоў, выстаянай у доўгіх чэргах падчас ваеннага становішча. У лесе паміж Засценкамі і Пячуркамі можна знайсці часам зусім акуратны тэлевізар з геркаўскай эпохі, магнітафон, дзіцячую каляску, ложак. Тых, якім пашанцавала знайсці электрычныя тавары, раю аднак уключаць іх вельмі асцярожна. Ніколі не вядома, ці веснавы дождж не толькі абмыў іх з пылу, але пры нагодзе нешта і пашкодзіў. Пабываючы ў падбеластоцкіх лясах, можна таксама зарыентавацца, калі пачынаецца будаўнічы сезон і якія матэрыялы выкарыстоўвуюцца цяпер для пабудовы новых катэджаў. Кучы мяшкоў, разбітай цэглы, толю растуць так хутка, што не паспявае іх маскіраваць нават актыўная вясною прырода. Беластоцкі люд будуецца, праводзіць рамонты і парадкі вакол сваіх двух- ці трохпавярховых домікаў, абураецца на тых, што забруджваюць ваду ў рэках і паветра ў горадзе. Пару мясцовых палітыкаў і легіёнураднікаў кожны дзень змагаюцца за экалогію, ладзяць усялякія канферэнцыі, пішуць тысячы справаздач, прысвойваюць самім сабе ўзнагароды за выдатныя дасягненні. Хто яшчэ не ведае пра планы стварэння „зялёных лёгкіх паўночна-ўсходняй Польшчы"? Калі б хаця палову гэтых грошай, якімі распараджаюцца ўраднікі, накіраваць на ачышчэнне Беластоцкага ваяводства ад усялякага смецця, апынуліся б мы ў зусім іншым свеце.

У новых школьных праграмах прадбачваецца час на адукацыю дзяцей у галіне экалогіі. Будуць вучыць іх не ламаць дрэў, не нішчыць птушыных гнёзд, не пакідаць адпадкаў у лесе. Некаторыя навучацца нават гэтых правілаў сужыцця з прыродай на найвышэйшую ацэнку, але ідучы са школы пабачаць рэчаіснасць. Раней ці пазней, так як іх бацькі, зразумеюць, што адно трэба гаварыць, а другое рабіць.

**Васіль Кургановіч**

# Асталіся толькі плоткі

У Беластоку на ўскраінах горада знаходзіцца вадаём Дайліды. У сямідзесятых гадах на тутэйшых багнах некалькі батальёнаў салдат і сотні меліяратараў стварылі гэтае штучнае возера, якое мела забяспечыць ваду для горада і адначасова стаць цэнтрам воднага спорту для гэтай часткі Польшчы. Некалькі разоў сапраўды ў Дайлідах праводзіўся чэмпіянат краіны па водна-маторнаму спорту. Возера, аднак, гэта перш за ўсё месца летняга нядзельнага адпачынку для дзесяткаў тысяч жыхароў Беластока. У ліпені ці жніўні ў мутнай да межаў магчымасці вадзе ад раніцы да вечара хлюпаецца пару тысяч дзяцей і моладзі. На другім, паўночным беразе гэтага возера, сярод кучаў бутэлек і недакуркаў, кожнае пару метраў стаялі з вудкамі аматары свежай рыбы.

Зіма ў гэтым годзе, як вядома, была вельмі вострая. Таўшчыня лёду на стаячых водах дайшла да 80 сентыметраў. Ніхто, аднак, не падумаў, што пад лёдам знаходзяцца пастаянныя жыхары гэтага вадасховішча. Ні аматары свежай рыбы, ні ўласнік вадаёма — Цэнтр адпачынку і фізкультуры — не мелі ахвоты прыйсці зімою на вадасховішча і высекчы некалькі палонак, каб рыбы мелі чым дыхаць. На пачатку красавіка лёд растаў, а наверх выплыла здохлая рыба. Вакол возера з'явіўся сярэбрана-белы абадок. Веснавая хваля выкінула на бераг тысячы карпаў, лешчаў, карасёў усялякай велічыні. Яшчэ на пачатку мая на паўночным беразе вадасховішча ляжала шмат дваццацікілаграмных карпаў, якія ўзбагачалі ваду гніласнымі элементамі. Пакуль рыба была яшчэ свежая, кружылі над ёю хмары чаек і іншых вадаплаўных птушак. Паводле беластоцкіх вудзільшчыкаў пратрывалі толькі дробныя плоткі, але нават яны прыцягнулі на бераг возера такі сам натоўп людзей з вудкамі, як і год раней. Не перашкаджаў ім нават смурод гнілой рыбы.

Неўзабаве канікулы і на пляж у Дайлідах з'едуцца аматары адпачынку з усяго Беластока. Можа да гэтага часу астаткі здохлых рыб пад уплывам сонца, вады і ветру згінуць недзе з вачэй любіцелей натуральнага асяроддзя. **(ям)**

*Фота з архіва*

9 дзён мерапрыемстваў

# Дні Бельска

Апошні тыдзень мая пройдзе ў Бельску пад знакам культуры. У днях **25 мая — 2 чэрвеня** Бельскі дом культуры арганізуе цыкл культурных мерапрыемстваў пад назвай **Дні Бельска**. У рамках гэтай імпрэзы прадугледжаны канцэрты калектываў, тэатральныя спектаклі, мастацкія выстаўкі, спартыўныя гульні і конкурсы для дзяцей. Апрача мясцовых выканаўцаў перад жыхарамі горада выступяць калектывы з Ломжы, Варшавы і Кельцаў, а таксама замежныя артысты з Ваўкавыска, Слоніма і Луцка.

Дэталёвая праграма мерапрыемстваў змешчана будзе на расклееных у горадзе афішах. За падрабязнасцямі можна звяртацца да арганізатараў: тэл: (0-834) 3414.

**Словы шчырага спачування спадару Пятру Юшчуку з прычыны напаткаўшага Яго гора – смерці БАЦЬКІ – выказваюць рэдакцыйны калектыў і Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

# Слова пра Янку Геніюша

Пошукі звестак пра Янку Геніюша толькі пачынаюцца. Ён быў надзвычайным чалавекам, шчырым і адданым Бацькаўшчыне беларусам. Дый іншым ён быць не мог. Тым больш, што побач з ім, нягледзячы на ўсе цяжкія і шматгадовыя ростані, была слынная паэтка Беларусі Ларыса Геніюш. Яны разам дзялілі свае гора і радасці, здзекі і хваляванні, трывогу і неспакой. На надмагільным помнічку ў Зэльве, які пры жыцці ставіла яму сама Ларыса Антонаўна (цяпер ім дваім творчая інтэлігенцыя Беларусі паставіла новы), былі выбіты такія радкі:

*По сонца асветы ўзлятаў, нібы птах,*
*З палоскі сялянскае, вузкае.*
*Адзін толькі ведаў у жыцці сваім шлях*
*Пачэсны, цяжкі, беларускі!*

Іван Пятровіч Геніюш нарадзіўся ў 1902 годзе ў Крынках на Беласточчыне. Пасля сям'я Геніюшаў пераехала на Зэльвеншчыну. У свой час ён закончыў Пражскі універсітэт, па спецыяльнасці быў урач-венеролаг. У акупаванай немцамі Празе прымаў актыўны ўдзел у дзейнасці беларускіх нацыянальных арганізацый. Быў знаёмы і шчыра сябраваў з многімі вядомымі дзеячамі Беларускай Народнай Рэспублікі, пісьменнікамі, кампазітарамі і мастакамі.



*Магіла Геніюшаў у Зэльве.*

Пасля вайны Янка Геніюш і яго жонка Ларыса былі рэпрэсіраваны. Вярнуліся на Радзіму ў другой палове 50-х гадоў. Мелі ў Зэльве свой дом і агарод. Іван Пятровіч працаваў доктарам у мясцовай бальніцы...

Вось што мне нядаўна расказаў пра Янку Геніюша яго сябра са Жлобіна Мікола Канаш: „Іван Пятровіч вельмі любіў беларускія кніжкі, сам шмат купляў і прасіў сяброў з другіх гарадоў. Калі я яшчэ жыў у Комі АССР, пасля лагераў, ён мне ў кніжнай лаўцы ў Зэльве падпісаўся на Беларускую Савецкую Энцыклапедыю і калі паступалі першыя тамы, дасылаў мне.

Ён трымаў заўсёды сабаку, які быў прывязаны на ланцуг і ноччу бегаў ад ганку да хлява па нацягнутым дроце. Вельмі шкадаваў, калі не стала аўчаркі Альмы, якая была першым дэгустатарам цукерак, малочных прадуктаў, якія прыносілі суседзі. Усё гэта і стала прычынай смерці Альмы.

Іван Пятровіч працаваў лекарам у раённай паліклініцы, калі вярнуўся з Варкуты ў 1956 годзе. У яго кабінеце вісеў партрэт Францыска Скарыны, таму некаторыя хворыя пыталіся ў яго: „Хто гэта?" З усімі жыхарамі Зэльвы Янка Геніюш размаўляў толькі па-беларуску. Часам чуў, як хворыя, перш, чым трапіць на прыём да яго, казалі: „З лекарам гаварэце толькі па-беларуску, бо не дасць асвабаждзення". Тых, хто казаў яму „здравствуйте", Янка не чуў, а рабіўся глухім і нічога не казаў. А калі казалі яму „добры дзень", ён здымаў з галавы капялюш і шчыра вітаўся.


*Ларыса і Янка Геніюшы.*

Іван Пятровіч быў вопытны доктар-практык. Ён добра разбіраўся ў неўралогіі, сексалогіі, венерычных хваробах, быў нядрэнны хірург і тэрапеўт, ведаў лекавыя травы. Зэльвенцы яго моцна любілі і цанілі..."

19 лютага 1979 года Янкі Геніюша не стала. Ларыса Геніюш з вялікім болем у сэрцы напісала тады:

*Апошні дотык рук на твары чую,*
*Тваіх знямоглых, цяжка схвараваных,*
*Апошні раз мой муж мяне цалуе,*
*З невысказаным да канца каханнем.*
*Залегла грозна цішыня у хаце,*
*Не вымавіць таго, што чуе сэрца.*
*Хвораму целу з ложка не падняцца,*
*Няўмольна смерць суровая крадзецца.*
*Як воск ад свечкі, памаленьку тае*
*Малы агеньчык, ужо амаль не свеціць,*
*Смерць, быццам злодзей моўчкі падступае,*
*Што ж, усё яшчэ смяротнае на свеце...*
*О, колькі раз я на тваіх далонях,*
*Выплаквала свой горкі боль да рання,*
*Як затрымаць жыццё твае мне сёння,*
*Усё не дасказана яшчэ, не дакахана.*
*Не адлятай у нязнаную дарогу,*
*Не пакідай, каб сэрца не балела,*
*Здаецца мне, што дзён гэтых нямнога,*
*Пражытых разам мігам праляцела...*
*Прайшлі гады, а для мяне хвіліны,*
*Супольных мараў, сноў аб Беларусі,*
*У нас дзве душы, а шлях наш быў адзіны,*
*Як цяпер сама я застануся?*

Дарэчы, і гэты верш нашай паэткі ў друку з'ўляецца ўпершыню. З ім мяне таксама пазнаёміў Мікола Канаш. Што датычыць тых людзей, з якімі сябраваў Янка Геніюш, дык хачу сказаць, што пра многіх ён пісаў успаміны. На жаль, гэтыя успаміны раскіданы па прыватных і розных іншых архівах. У 1980 годзе ў Мінску выйшла кніга вершаў Гальяша Леўчыка „Доля і хлеб". Сюды ўвайшлі і ўспаміны пра Г. Леўчыка. Складальнік спадчыны слонімскага паэта Янка Саламевіч уключыў успаміны пра Гальяша Леўчыка і Янкі Геніюша. Але яны пасля былі выкінутыя з кнігі. З таго часу ў друк так і не траплялі. Сёння я хачу прапанаваць успаміны Янкі Геніюша пра паэта Гальяша Леўчыка (1880—1944), які загінуў у гады вайны ў Варшаве.

**Сяргей Чыгрын**

# Успаміны пра Гальяша Леўчыка

Пра Гальяша Леўчыка ведаю няшмат. Пазнаёміўся я з ім і ягонай жонкай Зосяй недзе ў трыццатыя гады ў Слоніме. Дакладна не памятаю гэтай даты. Трапіў я да іх пару тыдняў пасля іх вяселля, запрошаны ягонай жонкай, якая мела сваякоў у Зэльве, нашых добрых знаёмых. Вельмі рады быў пазнаёміцца з мужам сваячкі маіх знаёмых, якога не ведаў.

Якое было маё здзіўленне, калі, увайшоўшы ў хату, убачыў на сцяне партрэцік Г. Леўчыка ў баранняй шапцы і каўняры, той самы, што ў „Чыжыку беларускім". Быў рады, што трапіў у хату да людзей, якія маюць дачыненне да беларускасці, але зусім быў захоплены, калі сам гаспадар аказаўся ведамым даўно мне нашаніўцам, паэтам Гальяшом Леўчыкам. Мы адразу знайшлі з ім шмат супольнага і пацякла цікавая гутарка.

Гальяш Леўчык меў тады нейкіх 50, ці праз 50 гадоў. Жонка была маладшая. Была гэта даволі прыгожая жанчына, якая прывяла Леўчыку з сабой у хату дзве свае сваячкі сіраты, якімі ён заапекаваўся і яны жылі разам з імі. Г. Леўчык быў вельмі жывы, рухавы, хораша іграў на гітары і пяяў. Пяяў ён з глыбокім пачуццём, праніклівa. Мне асабліва запаміталася песня „Мне трэба ўмярці, а жыў яшчэ так мала". Іграў ён яшчэ на нейкай свісцёлцы накшталт акарыны і гэта таксама ў яго хораша атрымлівалася. Увесь быў белы, але як жа малады духам.

Невялічкая хата ўся была застаўлена кніжкамі на стэлажах і вельмі цікавай керамікай, купленай ім на кірмашах. Было яе якіх 20 дэкаратыўных, непаўторных экземпляраў. Пасля мілага пачастунку, асабліва духовай яго часткі, мы хадзілі з ім яшчэ доўга па Слоніме, заходзілі да яго знаёмых. Ён мне распавядаў, як цікава пазнаёміўся са сваёй жонкай. Прачытаў недзе абвестку ў газеце аб тым, што дзяўчына напісала аповесць з беларускага жыцця і звяртаецца, каб нехта памог яе выдаць, бо сама не мае на гэта сродкаў. Леўчык адгукнуўся на такую справу і папрасіў прыслаць яму рукапіс. Дзяўчына прывезла яму рукапіс асабіста і ён захапіўся болей аўтаркай, як рукапісам, што ў хуткім часе скончылася шлюбам. Аб далейшай долі таго рукапісу на жаль не ведаю.

Мне вельмі хацелася часцей яго бачыць і гутарыць, але гэта быў іх мядовы месяц і я тактоўна стараўся не наносіць ім лішніх візітаў. Аднак яшчэ пару разоў мы з ім бачыліся. Ён звяртаўся да мяне, маладога студэнта-медыка, з рознымі парадамі ў гэтай галіне. Вельмі захапляўся жонкаю, але нейк як эстэт, шмат аб ёй гаварыў і мне няёмка было адрываць яго ўвагу ад актуальнай для яго тэмы і скіроўваць яе на мінулыя ці сучасныя беларускія справы. Так мы з ім і развіталіся, бо мне трэба было ехаць у Прагу канчаць


*Гальяш Леўчык.*

амаль без грошай у чужым краі сваю медыцыну.

Едучы ў Прагу, я заехаў да іх у Варшаву. Апрача хаткі ў Слоніме, мелі яны там невялікую кватэру, усю застаўленую кніжкамі, сярод якіх было шмат беларускіх „белых крукоў", як казаў пра іх.Леўчык. Я з дзіцячых гадоў такі ж кнігалюб, як і ён, але нічога не мог у яго для сябе выпрасіць з гэтых кніжак. Паказваў ён мне тады вельмі хораша выдадзеную метадысцкую „Божую ліру" на беларускай мове. Казаў, што рабіў якраз для яе пераклады. Я толькі заўважыў, што гэтая кніжка была напісана надта добрай беларускай моваю, а таму, што на нашай мове ў той час не часта можна было бачыць выдадзеную кніжку, дык і гэта было падзеяй.

Даў ён для мяне тады старую газету на беларускай і рускай мовах, якую выдавалі беларускія студэнты ў Петраградзе. Назвы не памятаю. І яшчэ даў мне вайсковы статут на беларускай мове, выдадзены ў Лодзі палякамі ў той час. Гэтыя дзве рэчы я аддаў у Пражскі беларускі архіў, які існаваў пры славянскім архіве, бо лічыў, што там яны лепей захаваюцца. Болей я з Г. Леўчыкам не сустракаўся. Калі я ажаніўся і да мяне прыехала ў Прагу жонка з сынам, мы атрымалі яшчэ ад Леўчыка пару кніжак на роднай мове аб выхаванні дзіцяці. Гэта было даўно, ды можа не ўсё захавала памяць, але вобраз Г. Леўчыка застаўся ў маёй памяці чысты такі і праніклёна беларускі.

Чуў я ад людзей, што ў яго варшаўскую маленькую кватэрку ў час вайны такі трапіла нямецкая бомба. Было гэта, як казалі, у яго адсутнасці. Так што нічога яму не ўдалося ўратаваць. Ён страшэнна бедаваў з гэтай прычыны, бо гэта была любоў і сэнс яго жыцця. Калі дакладна памёр ён, не ведаю. Жонку ягоную, кажуць, расстралялі немцы ў час вайны ў Слоніме ў адной з аблаваў на людзей. Гдзе пахаваны Г. Леўчык, не ведаю, ды і чуць мне аб гэтым не давялося. Кароткае было маё з ім знаёмства, але памяць аб ім я захаваў праз усё жыццё і яшчэ сяння часта ўспамінаюцца ягоныя словы: „Хто адрокся сваіх і ўстыдацца нас стаў і прыліп да чужых, каб ён свету не знаў!.."

*Зэльва, сакавік, 1975 г.*

**Янка Геніюш**

# Перад выхадам у свет

Паводле вучнёўскага павер'я, матура тады лёгкая, калі зацвітуць да яе каштаны. Сёлета ў час пісьмовых экзаменаў на атэстат сталасці каштаны яшчэ не цвілі. Тым не менш, калі я завітаў у беларускія ліцэі 9 мая — быў якраз трэці дзень матураў, праца па беларускай мове — не ўбачыў прыгнечаных твараў. Відаць, польская мова і абраны прадмет — матэматыка, гісторыя, біялогія або замежная мова пайшлі няблага.

У Бельскім беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча да матуры ў гэтым годзе прыступілі ўсе 79 абітурыентаў, а ў Гайнаўскім — 68 асоб, у тым ліку адна пані, якая гэтую школу закончыла ў 1974 годзе. Ад экзамену па беларускай мове вызвалены былі 6 асоб у Бельску і 3 у Гайнаўцы. Усе яны лаўрэаты прадметных алімпіядаў у Польшчы і Беларусі.

Матурыстам давялося выбіраць адну з трох тэмаў:

1. Якія жыццёвыя і гістарычныя факты змусілі Янку Купалу выказаць фразу:

*Роднага ж краю тутэйшыя людзі*
*Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом*

і ці яна актуальная на сённяшні дзень?

2. Кожны народ мае сваю літаратурную спадчыну. Маюць яе і беларусы, якія пражываюць у польскай рэчаіснасці. Што табе вядома пра беларускую літаратурную плынь у Польшчы?

3. Раскрый сэнс выказвання:

*Хто забыў сваіх продкаў*
*— сябе губляе.*
*Хто забыў сваю мову*
*— усё згубіў...*
*(Уладзімір Караткевіч)*



*Камісія ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Злева: дырэктар Яўген Сачко і настаўнікі: Аляксей Мароз, Галіна Пшчола, Васіль Сакоўскі.*




*Натужлівая праца ў Бельску.*

Дырэктар Ліцэя імя Тарашкевіча Зінаіда Навіцкая сказала, што ў яе школе найбольш асоб выбіралі другую і трэцюю тэмы:

— Але пішуць і на першую таксама. Тым больш, што гэта пытанне сапраўды актуальнае і ў сённяшні дзень.

У Бельску рэгламент матураў быў такі самы, як і ў папярэдніх гадах. Вынікі пісьмовых працаў былі вядомыя ўжо 11 мая. А 13 мая пачаліся вусныя экзамены.

Гайнаўскі ліцэй паважыўся на эксперымент. Першы раз матурысты не падпісвалі сваіх сачыненняў імём і прозвішчам, але шыфрам. Настаўнікі не ведалі, чые працы правяраюць. Калі б хто паставіў недастатковую ацэнку, у вучня яшчэ быў бы шанц, бо працу ў такім выпадку правяраў бы другі настаўнік. Але гэта шыфроўка замарудзіла працэс праверкі і вынікі падаваліся толькі 13 мая. А гэта, вядома, дадатковыя нервы. У час матураў нервуюцца не толькі вучні — хаця яны найбольш — але і настаўнікі, і бацькі, і нават сябры, знаёмыя.

Спадзяюся, што калі гэты нумар „Нівы" выйдзе з друку, будзе ўжо па нервах і па страху. Жадаем выпускнікам беларускіх ліцэяў адчыненых дзвярэй ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы і ў шырокі свет.

**Мікола Ваўранюк**
*Фота аўтара*



*Дзяўчаты ў Гайнаўцы ўжо напісалі. Цяпер не страх паказаць свае шпаргалкі-зарукаўніцы.*

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг: пачатак у 18 н-ры)*

Пры панаванні Паўла І і Аляксандра І наадварот — ізноў пачало пашырацца уніяцтва і каталіцызм. Адразу пасля ўступлення Паўла І на трон спыняюцца прылучэнні уніятаў і католікаў да праваслаўя. Каталіцкае духавенства атрымала ранейшыя правы і падтрымку, аднаўляюцца уніяцкія епіскопіі і мітраполіі, хаця Павел І прыхільнікам уніяцтва не быў. Пра уніятаў ён сказаў, што гэта ні рыба, ні мяса і што трэба быць або праваслаўным, або католікам.

Словы цара польскія паны, каталіцкае духавенства і адміністрацыя, якія пры Паўле І і Аляксандры І у Беларусі былі ў асноўным польскія, зразумелі пасвойму і зноў пачалі моцна пашыраць як каталіцызм, так і унію. А магчымасці к таму атрымалі выдатныя. Для духоўнай апекі і кіравання католікамі рускай імперыі паўстала ў Пецярбургу рымска-каталіцкая калегія. Пры панаванні Паўла І гэтай калегіі падпарадкавана была і уніяцкая царква. Такога згубнага кроку, каб уніяцкая царква кіравалася каталіцкай іерархіяй, не так проста было дабіцца ў часы Рэчы Паспалітай. А цяпер зрабіў гэта сам рускі цар. Ну і пачаліся масавыя, як дабравольныя, так і прымусовыя, пераходы з уніі ў каталіцызм. Уніяты сталі бараніцца. Рэлігійнае пытанне і рэлігійная барацьба на Беларусі і ў нас тут зноў абвастрыліся.

На чале барацьбітоў супраць такой сітуацыі стаў сам уніяцкі мітрапаліт Іраклій Лісоўскі. Ён падае ў Пецярбург скаргу за скаргай на католікаў за іх націск на уніятаў. Інфармаваў ён, што сілаю загнана ўжо ў каталіцкае веравызнанне дваццаць тысяч уніяцкага народу. Ён умаляе пазбавіць уніятаў лацінскай апекі. Незадоўга перад смерцю, а было гэта ў 1811 годзе, Лісоўскі зрабіў завяшчанне, у якім умаляў рускі ўрад ратаваць унію ад лацінскай загубы, у крайнім выпадку просіць даверыць кіраванне уніятамі пасля яго смерці такому чалавеку, які любіў бы ва уніі ўсходнія абрады. Ён нават прапанаваў на гэты пост кандыдатуру полацкага епіскапа Красоўскага. (На прыкладзе нашага Супрасльскага манастыра выразна бачым цяпер, што меў рацыю мітрапаліт Лісоўскі, калі так баяўся лацінскай апекі.)

Царскі ўрад быў аднак глухі і сляпы на такія просьбы. Ён глядзеў на Беларусь вачыма царскага прыяцеля і саноўніка Адама Чартарыскага і слепа праводзіў у Беларусі і на нашай тэрыторыі хітрую ягоную палітыку. Што з таго, што яшчэ не так даўно род Чартарыскіх быў русінскім праваслаўным родам Адам Чартарыскі ўжо католік і чуецца польскім патрыётам. Ён спрыяе ўжо не русінам (беларусам і украінцам), а палякам. Падобна, зрэшты, паступае амаль уся беларуская і украінская эліта. І так ужо больш-менш асталецца да канца панавання Аляксандра І, якое закончылася ў 1825 г.

Так што калі беларускі народ трапіў пад панаванне царскай Расіі, паланізацыя яго не скончылася, а надалей прадаўжалася. Толькі паявіўся ў яе магутны канкурэнт — русіфікацыя. Далей яны са зменным шчасцем будуць сапернічаць з сабой. І так напрыклад, пры панаванні Кацярыны ІІ, бадай, перавагу мела русіфікацыя. Пры царстваванні яе наследнікаў — Паўла і Аляксандра І, наадварот — паланізацыя.

Змены, і то вялікія, наступаюць пры панаванні Мікалаяў і наступных Аляксандраў. У часы панавання гэтых апошніх чатырох Раманавых маем дачыненне ў Беларусі і на нашай Беласточчыне з вострай русіфікацыяй, якая для паланізацыі замнога месца ўжо не астаўляе. Апошнія цары вельмі хочуць беларусаў зрусіфікаваць і ведаюць ужо як гэта зрабіць. Гэта іх хаценне яшчэ мацней узрастае пасля паўстання ў 1831 і 1863 гадах.

А вось мерапрыемствы царскіх урадаў, пры дапамозе якіх русіфікацыя ў Беларусі здабывае перавагу над паланізацыяй. Ліквідуецца Віленскі універсітэт. Школы перабудоўваюцца на ўзор рускіх школ. Адбіраюцца прывілеі ў каталіцкага духавенства, напрыклад, адсоўваецца яно ад асветы. Каталіцкія ордэны, манастыры і школы зачыняюцца. Тое месца, якое раней займала каталіцкае духавенства ў жыцці Беларусі, пачынае займаць праваслаўнае, пераважна рускае духавенства. Літоўскі Статут замяняецца рускім правам. Уніяцкі дэпартамент выводзіцца з-пад падлегласці рымска-каталіцкай калегіі і ператвараецца ў самастойную грэка-уніяцкую калегію. Адкрываюцца самастойныя грэка-уніяцкія духоўныя семінарыі з праваслаўным ухілам. (Дагэтуль уніяцкая царква атрымоўвала духоўныя асобы з рымска-каталіцкай семінарыі пры Віленскім універсітэце.) А з часам унія і ўвогуле ліквідуецца на карысць праваслаўя.

Немалую ролю адыграла тут і згаданая ўжо мною адмена прыгоннага права, праведзеная Аляксандрам ІІ у 1861 годзе, калі гэта наша сялянства юрыдычна становіцца незалежным ад польскіх паноў. Але яшчэ доўга многія мясцовыя чыноўнікі адчувалі сябе, думалі і гаварылі між сабой і з нашымі тутэйшымі мужыкамі па-польску, як напрыклад, землямер Тура. Чыноўнікамі ж, вядома, маглі быць толькі людзі адукаваныя, а адукацыю маглі атрымаць дасюль толькі людзі вольныя і якія мелі на гэта сродкі, значыць, у асноўным шляхта.

Мужыку напэўна ані навукі, ані чыноўніцкіх пасад у часы паншчыны і адразу пасля яе не было...

*(працяг будзе)*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Школьная песня-96

10 мая г.г. у Бельскім доме культуры адбыўся агляд школьнай песні. На сцэне выступалі дзеці амаль з усіх школ, дзе вядуцца ўрокі беларускай мовы. Былі спевакі з Гарадка, Нарвы, Нараўкі, Гайнаўкі, Курашава, Кленік, Чыжоў, Бельска-Падляшскага, Ягуштова, Кляшчэль, Чаромхі.

Цікавасць выклікалі нараўчанскія „Душкі з пушкі". Яны ўпершыню выступалі ў новых касцюмах, запраектаваных на ўзор грыбка-мухамора. Ды і выступленне нараўчанскіх энтузіястаў беларускай песні можна лічыць праблескам агляду. З дзецьмі працуе Аліна Саевіч, працаўніца дома культуры.

Цікава назвалі свой гурт дзеткі з Кляшчэль — „Лясныя скамарохі". Выступілі яны ў прыгожых, народных адзеннях.

Выступленне ласінскіх „Лісічак" было таксама чароўнае. У групе былі нават дашкольнікі. Цікава паказалася ласінская салістка Паўлінка Пашка. Ужо другі год з дзяцьмі прыязджае матушка мясцовага прыхода Аліна Кос. Яна вядзе таксама царкоўны дзіцячы хор. У Ласінцы расце цікавая спявачая група. Трэба спадзявацца, што „Лісічкі" яшчэ не раз выступяць на аглядзе беларускай песні.

(*У наступнай „Зорцы" напішам пра іншых выканаўцаў.*)

**Ганна КАНДРАЦЮК**
*Фота аўтара*



*„Душкі з пушкі" ў новых уборах.*



*„Лясныя скамарохі" з Кляшчэль.*



*„Лісічкі" з Ласінкі з матушкай Алінай Кос.*

## *Вучнёўская творчасць*

### Не ўцякай сэрца маё

*Прысвячаю настаўніку беларускай мовы Андрэю СЦЕПАНЮКУ*

Не ўцякай сэрца маё
ад родных ніў
А калі трэба табе адляцець
вазьмі з сабою вобраз
дзіцячых дзён
на падляшскіх землях

Гэта твая крыніца
Цудадзейны паток
ацалелых мар аб шчасці
якія ўзносілі цябе
у бяссоннае неба да зор

Не адракайся сэрца таго
што найдаражэйшае матчынае
не саромся сваёй тугі
Дзе б гэта не было
позірк срэбнага месяца
ачысціць яе паржавелыя ноты

Не плыві маё сэрца
сцяжынкаю адзіноцтва
у глыбіню задумы мёртвай
Тваіх він
цяжару
не адкупіш
слязамі

**Іаанна ГРАЎЛЮК**

### Хворая маці

Мая мама была хворая
Вельмі цяжка забалела
І я баялася думаць
Што яна сапраўды
Можа ад гэтага памерці
Я хадзіла і думала
Думала і малілася
Прасіла ў Бога аднаго
Для маёй мамы здароўя

**Аня САДОЎСКАЯ**
**VII кл. ПШ у Нарве**

### Вясна

Вясна-красна,
Вясна-прыгажуня,
Птушкі аб табе спяваюць,
У госці запрашаюць.
І ты аднойчы прыходзіш да нас,
Цудоўная вясна,
Кветкі распускаеш,
Буслоў-клекатуноў
На лугі выпускаеш.

### Лета

Што гэта — лета?
Лета гэта:
— смак малін,
— каляровыя матылькі,
— залатыя рамонкі
— гарачыя дні
— зялёныя лугі..
Гэта — поўная сумка
І цудоўныя канікулы.

**Моніка МЕЛЬНІК**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Воўк, Змітрок, кабыла і баран

(*беларуская народная казка*)

Ішоў сабе няшчасны воўк. Сустрэў ён Змітрака. Той Змітрок быў краўцом ды ішоў з палкаю, якой мерку здымаў. Воўк кажа:

— Змітрок, Змітрок, я цябе з'ем!

А Змітрок адказвае:

— З'ясі дык з'ясі! Але перад смерцю дай я табе змераю камізэльку!

Воўк згадзіўся. Змітрок пачаў яму палкаю па баках „мераць". Мераў, мераў пакуль ваўка чыста збіў. Тады кажа:

— Пачакай жа! Камізэльку я змераў, але яшчэ ляж дагары жыватом, тады пазначу, дзе гузікі ўшываць!

Воўк лёг, а Змітрок яго насторч тою палкаю чыста скалоў, што не захацеў і есці воўк Змітрака.

Змітрок астаўся жыць і пайшоў сабе далей. А воўк ляжыць ды думае: „Гм! Не з'еў дык не з'еў! Але навошта мне была гэта камізэлька ды яшчэ ў два рады гузікі? Ці я пан? Ці я шляхціц"... І пайшоў воўк далей паманеньку. Ідзе аж бачыць, кабыла ходзіць. Воўк і кажа:

— Кабыла, кабыла! Я цябе з'ем!

— З'ясі дык з'ясі, — адказвае кабыла, — але навошта ты будзеш мяне есці? Ты вось лепш пачытай у мяне пад капытом газету!

Воўк пачаў глядзець, а кабыла як ляпне яму ў храпу нагамі, аж воўк адляцеў і ляжыць. А кабыла ўцякла. Ляжыць воўк і думае: „Не з'еў ды не з'еў! Але нашто яшчэ было мне гэту газету чытаць? Ці я грамацей, ці вучыцель?" Ачомаўся воўк і пайшоў далей. Ідзе, ідзе, сустракае барана і кажа:

— Баран, баран, я цябе з'ем!

А баран яму адказвае:

— Навошта, браток, ты мяне будзеш есці? Ты вось лепш заплюшч вочы, адкрый рот, а я табе сам ускочу!

Сеў воўк, заплюшчыў вочы і адкрыў рот. Баран як разагнаўся ды як даў яму рагамі ў лабаціну, аж воўк самлеў. Баран уцёк а воўк ачомаўся ды кажа:

— Не ведаю, ці я яго глынуў, ці ён мяне мінуў.

# Матэматычныя конкурсы

**Дарагая Зорка!**

Пішуць табе вучні пятага „ц" класа Пачатковай школы н-р 2 у Гайнаўцы. Хочам паведаміць, што ў сакавіку ў нашай школе праводзіўся „Месяц матэматыкі". Наш клас прымаў удзел у конкурсе „Лаўрэат матэматыкі". Лукаш Пашко заняў трэцяе месца, Дарэк Давідзюк пятае, а Кшысю Сацу не павязло. 18 мая будзем прымаць удзел у гарадскім конкурсе. Найцікавейшыя былі конкурсы тыдня, якія арганізавала наша настаўніца матэматыкі мгр Аліна Грыгарук. На кожны тыдзень быў іншы конкурс. У першым тыдні разгадвалі мы складаныя матэматычныя рэбусы, якія былі змешчаны ў насценгазеце „Лікі паміж намі". У другім тыдні мы адказвалі на пытанні аб нашай школе. На аснове прыведзеных даных трэба было адказаць на пытанні:

1) Колькі вучняў вучыцца ў пачатковых класах?

2) Каго там больш: хлопцаў ці дзяўчат? На колькі?

3) Які працэнт вучняў выпадае на аднаго настаўніка?

Трэці конкурс датычыў ведаў на тэму Міжнароднага конкурсу „Кангур". Трэба было адказаць на пытанні:

1) Чаму конкурс завецца „Кангур"?

2) Як доўга трывае конкурс і на колькі пытанняў трэба адказаць?

3) Колькі вучняў з нашай школы прымае ўдзел у гэтым конкурсе?

4) Напішы прозвішча хаця трох вучняў з нашай школы, якія былі пераможцамі ў конкурсе „Кангур'95"?

Карткі з правільнымі адказамі мы астаўлялі ў зале н-р 29, дзе працуе наша настаўніца. У кожны панядзелак на першым доўгім перапынку а гадзіне 11.40 адбывалася жараб'ёўка дзесяці ўзнагарод. Наш клас вельмі ахвотна ўдзельнічаў у гэтых конкурсах. Лукаш выйграў сегрэгатар, яго сястра — каляровыя аўтаручкі, Кшысь здабыў дзве ўзнагароды: альбом для здымкаў і аўтаручку, а Данель выйграў сегрэгатар і аўтаручку. Узнагароды былі сціплыя, але прынеслі нам многа радасці. Наша настаўніца паведаміла нас, што ўзнагароды нам падрыхтаваў Бацькоўскі камітэт нашай школы. Нам вельмі хочацца, каб у будучым годзе, у сакавіку, адбыліся падобныя конкурсы.

**Кшысь Сац,**
**Дарэк Давідзюк, Лукаш Пашко**




*Настаўніца матэматыкі Аліна Грыгарук з вучнямі.*

# Вяселле нашых продкаў

**Допыты, сваты, розгляды, заручыны**

Вяселле нашы продкі адзначалі ці не найбольш маляўніча і ўрачыста. Гэта свята было насычана абрадамі і рытуаламі. Вясельны дзень святкавала ўся вёска. Але пакуль да вянца, многае адбывалася раней.

Калі хлопцу спаўнялася 18—20 гадоў, яго бацькі пачыналі шукаць працавітую і багатую дзяўчыну. Прабабалі даведацца пра пачуцці да яе хлопца, але яны не заўсёды ўлічваліся. Пазней ладзілі сваты, якія нярэдка папярэджвалі допытамі. Хросная маці хлопца, цётка або нават матуля ішла ў аўторак ці чацвер у хату дзяўчыны і садзілася на лаву пад ручнік, што адназначна сведчыла аб мэце яе прыходу. Потым адбывалася сватанне. У сваты да дзяўчыны ішлі ўдвох—утрох: хросны бацька хлопца або дзядзька, часам старэйшы брат. Сам хлопец не мусіў удзельнічаць у сватах.

Звычайна ў сваты ішлі адвячоркам, бо людзі верылі, што ў дзень лёгка сурочыць планы. Сваты глядзелі, каб была якраз месячная поўня, тады сям'я сватанага жыла б поўным шчасцем. Калі прыходзілі ў хату дзяўчыны, часта выдавалі сябе за падарожнікаў, купцоў, паляўнічых. Пыталіся, ці ёсць што прадаць. Часам гаварылі: *Прыйшлі па тую кветку, што цвіце зімой і ўлетку.* Калі з адказаў гаспадароў вынікала, што перагаворы могуць адбыцца, старшы сват пачынаў пачастунак. Найбольш важнай справай сватання было абмеркаванне пасагу. Калі гэта пытанне вырашалася, клікалі дзяўчыну і пыталіся ў яе згоды. Яна звычайна чырванела і гаварыла: *Калі маўчу, значыць хачу.*

Пасля бацькі засватанай дзяўчыны ішлі да жаніха ў розгляды, каб паглядзець, як ён жыве. Праз два тыдні былі заручыны. Звычайна адбываліся яны вечарам за тыдзень да вяселля. Ладзілі іх у хаце маладой. Прыязджалі сват, малады, яго бацька. Везлі яны з сабой хлеб, сыр, мёд і іншае. Аб прыездзе сватоў у вёску ўсе ведалі, бо коням, на якіх ехалі госці, вешалі на шыю бомы. Пад'язджалі да хаты маладой, але ніхто іх не сустракаў. Брама была зачынена, часам былі і зашчэплены дзверцы ў сенцы. „Купцы" або „паляўнічыя" прасіліся, каб іх пусцілі пагрэцца. Ім адчынялі дзверы і высвятлялася, што іх чакала ўся радня маладой. Пасля „спрэчак" сватоў садзілі за стол. У час заручын трэба было абвясціць усім сабраным пра згоду дзяўчыны і яе бацькоў на шлюб. Сватоў садавілі на лавах, высланых ручнікамі. Найбольш важнымі абрадамі былі: злучэнне рук маладых і абмен пярсцёнкамі.

У некаторых мясцінах старшага свата перавязвалі праз правае плячо ручніком. У канцы заручын маладая дарыла жаніху хустачку, а ён даваў ёй грош. Старшаму свату падавалі бутэльку жыта, абвязаную ручніком і поясам — сімвал поўнай згоды на шлюб. Жыта сваты забіралі з сабою.

***(працяг у наступным нумары)***

**А.А.**

# Прабудзілася вясна

Люблю вясну,
Люблю зялёную,
Люблю як птушкі пяюць,
Вясну вітаюць.
На дрэвах лісце
Паказалася.
Буслы прыляцелі,
Галасна заклекаталі.
Пралескі ў лесе
Прачнуліся.
Гэта вясна
Прыгожай музыкай
Расцвіла.

**Кася Русіновіч**
**VI кл. Пачатковай школы ў Нарве**

# Загадкі

* * *

Урадзіўся ён высокі,
Шаўкавісты, сінявокі.
Апранае нас здавён...
Здагадайцеся, хто ён?

* * *

Месяц гэты вузкі, гнуткі,
У яго знутры ёсць зубкі.
Ён калісьці вельмі дбайна
Жыта жаў замест камбайна.

* * *

Паміж бяроз
На кусце рос.
Як спелым стаў,
На зуб папаў.

# Крыжаванка № 21

(*апрацавала Кася Леанюк з Гайнаўкі*)

Калі вы запоўніце правільна ўсе клеткі, атрымаецца лозунг. Дашліце яго ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 16**

Лозунг: „Белавежскі парк".

Узнагароды — запісныя альбомныя кніжкі — выйгралі: **Казік Радошка** са Свябодзіцаў (Валбжыхскае ваяводства), **Эва Зубрыцкая** з Нарвы, **Крыстафор Рэтэль** з Руткі, **Сільвія Шыманская** з Орлі, **Аня Вавульская** з Бельска- Падляшскага і **Міраслаў Баўтручук** з Кутавой. **Віншуем!**

Лятучая машына
Дрэва з чырвонымі ягадамі
Аўстралійскі мядзьведзь
Пустыня ў Афрыцы
Чатыры кварталы
Нараджаецца з барадой
Доля
На кухонным стале
У садзе
Завод
У шапцы з белымі кропкамі
Начны адпачынк
Гданьск або Беласток

# Францішак Скарына

Нарадзіўся ён у 1487 годзе ў Полацку, старажытнай сталіцы Беларусі. Яго бацька быў купцом, які не шкадаваў грошай на адукацыю сына. Францішак спачатку вучыўся ў Полацку і Вільні, а ў гадах 1504–1506 быў студэнтам філасофскага факультэта ў Кракаўскім універсітэце. У 1512 годзе Францішак Скарына атрымаў вучоную ступень доктара медычных навук універсітэта ў Падуі (Італія), аднае з найбольш прэстыжных навуковых установаў у Еўропе. Быў ён першым прадстаўніком славянскіх краін, які адзначыўся там такім навуковым талентам, а адначасова наймалодшым доктарам гэтага славутага унівесітэта.

Італія была тады цэнтрам еўрапейскай культуры. Вопыт і адукацыю вынесеныя адтуль Францішак Скарына выкарыстаў для асветлення свайго беларускага народа. **6 жніўня 1517 года паказалася першая ва ўсходняй Еўропе друкаваная кніга. Была гэта Біблія на беларускай мове.** Скарына надрукаваў яе ў чэшскай Празе, дзе працаваў над перакладам тэксту на родную мову.

Неўзабаве пасля першага выдання Бібліі на беларускай мове, Францішак Скарына вярнуўся на Радзіму. У 1522 годзе заснаваў у Вільні першую на беларускіх землях друкарню і пачаў выдаваць кніжкі. Яго дзейнасць фінансавалі віленскія мяшчане, якія ведалі вартасць друку, кніжак і адукацыі. Спалучалі іх з Францішкам Скарынам веды пра Еўропу, а асабліва перакананне аб тым, што там, дзе былі добрыя школы, там было вялікае духоўнае і матэрыяльнае багацце.

Беларусы як першыя ва ўсходняй Еўропе атрымалі друкаваныя кнігі на роднай мове. Дзякуючы кніжкам Францішка Скарыны, пра Беларусь і яе культуру ведалі тады ў цэлай Еўропе. А было чым ганарыцца. Кніжкі Скарыны былі найпрыгажэйшымі сярод усіх тадышніх друкаваных выданняў.



Талон „Зоркі" № 21
26.05.1996

**... Толькі гмінных улад на аглядзе не было. Пэўна, мелі ў той час важнейшыя справы.**

# Агляд у Нарве



*Чыжоўцы паказалі сцэнку „Перапіванне".*

Хто прыйшоў у нядзелю, 12 мая г.г. у Нарваўскі асяродак культуры — не пашкадаваў, ой, не пашкадаваў. Адна Валянціна Франкоўская, з Вялікіх Тыневіч у ролі бацькі маладухі так разбавіла публіку, што рагаталі да слёз. У галіфэ з тоўстага сукна, нацягнутым на моцна жаночы задок, з расшнураванымі бацінкамі, з тырчачай з кішэні штаноў хустачкай колеру бруднай анучы для падлогі, — яна прахаджвалася перад публікай, жэстыкуліравала і была надта важная. Як жа гэта: да яго дачкі сватаецца нямілы яму кавалер.

А быў гэта агляд беларускіх абрадных калектываў, які ўжо трэці раз адбываецца ў Нарве. Сёлета аднак — найбольш для Нарваўскай гміны значны, бо заявіла яна аб сваім удзеле ў рэйтынгу гмін Беласточчыны паводле дасягненняў у культуры. Лозунг рэйтынга: „Samorządność — tak, samotność — nie!" Якраз гэты агляд у Нарве быў першым мерапрыемствам у гэтым рэйтынгу. Арганізаваў яго Нарваўскі асяродак культуры супольна з Беларускім таварыствам.

А люстраваць агляд прыехалі прадстаўнікі культуры: Марыя Шышка з Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы, Ванда Млынчык з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ды Ілья Нос, настаўнік з Міхалова, прадстаўнік Самаўрадавага сойміка. У камісіі, ацэньваючай мерапрыемства, была таксама працаўніца нарваўскай публічнай бібліятэкі Ядвіга Юхневіч.

Сярод гасцей паявіўся Славамір Галіцкі, упаўнаважаны ваяводы па справах нацыянальных меншасцей. А што датычыць журналістаў, дык была там не толькі „Ніва", але і Беластоцкае радыё, і тэлевізія, і „Gazeta Współczesna".

Праўду сказаўшы, магла б Нарваўская гміна да рэйтынга і не прыступаць: удзел у ім бярэ хто хоча. Але ж мае яна чым пахваліцца ў галіне культуры.

Вось хаця б у Нарве. Апрача Нарваўскага асяродка культуры, працуе тут Гмінная публічная бібліятэка з дзвюма бібліятэчнымі філіямі — у Трасцянцы і Ласінцы. У мінулым, 1995 годзе ў бібліятэцы ў Нарве было 387 чытачоў (па палове: дарослыя і дзеці), была пазычана 14 491 кніга, выпісваліся 22 часопісы; у Ласінцы — 180 чытачоў, пазычана 2471 кніга, выпісвалася 10 часопісаў; у Трасцянцы — 126 чытачоў, пазычана 1 649 кніг, выпісвалася 9 часопісаў.

Не спіць Нарва і ў галіне самадзейнага мастацкага руху. Ну, гэта перш за ўсё, вядома, фальклорны калектыў „Тыневічанкі" з Вялікіх Тыневіч — найстарэйшы ў гміне і найбольш заслужаны. У Нарве працуюць: маладзёжная тэатральная група, дзіцячы танцавальны калектыў сучаснага танца (тры групы — па ўзросту), лялечны тэатр пры Аддзеле для дзяцей Гміннай публічнай бібліятэкі, інструментальна-вакальны калектыў „Пронар".



*Валянціна Франкоўская (злева) ў ролі бацькі была непаўторная.*

Пры Нарваўскім асяродку культуры працуюць таксама секцыі зацікаўленняў, гурткі, клубы. Ёсць клуб сеніёра, кулінарная майстэрня, музычная майстэрня (у якой вядзецца навучанне ігры на інструментах), секцыя зацікаўленняў „Гуляй з намі арыгамі!" (арыгамі — японскія складанкі з паперы). Пры Гміннай публічнай бібліятэцы існуе гурток сяброў бібліятэкі.

У Нарве ёсць таксама спартыўная каманда „Іскра".

Адным словам, ёсць дзе разгарнуцца маладым, ды і не толькі ім. У нарваўскай бібліятэцы пастаянна адбываюцца кірмашы кніжак і аўтарскія сустрэчы, у яе філіялах таксама вядзецца праца. Там робяць выстаўкі „Пісьменнік месяца", чытаюць уголас казкі дзецям, праводзяцца літаратурныя гульні.

12 мая ў Нарву мела прыехаць 12 калектываў, але, як заўсёды, нешта ў некага не выйшла і выступіла ў тамашнім асяродку культуры ўсяго шэсць: з Краснага Сяла, Вялікіх Тыневіч, Чаромхі, Агароднічкаў, Збуча і Чыжоў. І так усё працягвалася больш трох гадзін. Нашыя жанчыны-самадзейніцы маглі б гадзінамі паказваць сцэнкі са свайго жыцця і спяваць бясконца. Спяваць і паказваць. Невычэрпныя крыніцы іх натхнення, бо натхненне ім дае сама прырода, з якой жывуць яны на „ты". Шкада, што не прыехалі самадзейніцы з Гарадка: якраз вярнуліся з гастроляў у Менску і ў той дзень адпачывалі.

Калі пачалі сыпаць народным гумарам „Красуні" з Краснага Сяла (працуюць пад кіраўніцтвам Валянціны Марціновіч) у сваёй сцэнцы „Скубанне пер'я", я ўжо была падумала: не, лепш, бадай, было б, калі б яны былі не песенным калектывам, а нейкім тэатральным... І тады яны заспявалі. Свае, старадаўнія, маці і бабуляй навучаныя... Якое хараство! І песні перапляталі тое скубанне пер'я, тыя дасціпныя дыялогі (пра гаспадыню: „Вона тобіе прынэсе вэчэраті, такая скупэндёшча! Як вэчэраті, то нэ чуе!")

Гумар са сцэны перадаецца публіцы. Маладзейшыя кабеткі непакоіліся, што скажа дома муж, калі ўбачыць пух у валасах.

Захапіла ўсіх выступленне „Тыневічанак" з Вялікіх Тыневіч у сцэнцы „Сваты", а асабліва дасканалае акцёрства заснавальніцы і кіраўніка гэтага калектыву Валянціны Франкоўскай, якая выступіла ў мужчынскай ролі. Яе хрыплаваты голас, нязвыклыя трапныя словы і жэсты жыўцом узяты з жыцця.

Калектыў з Чаромхі пад кіраўніцтвам Любы Сялінскай выступіў са сцэнкай „Каравай". Ляпілі цеста, „пяклі" яго, і спявалі, спявалі. Нястомныя жанчыны! А на канец сказалі, што каравай хацелі б аддаць **„на білоруське штосьці"** і ўручылі яго старшыні БГКТ Янку Сычэўскаму, які абяцаў перадаць каравай у Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы.

Выступалі жанчыны са Збуча (калектывам кіруе спадарыня Ціханюк) са сцэнкай „Вячоркі", спявала іх 80-гадовая салістка Анна Якімюк.

Выступілі „Журавінкі" з Агароднічак, праўда, не было Ніны Аўгустыновіч, якая якраз была хворая, ды і наогул жанчыны хваляваліся, бо ў аглядзе абрадных калектываў бралі ўдзел упершыню, але ўсё абышлося. Унеслі ў агляд новы, прыгарадны подых: у сцэнцы „Падрыхтоўка да вяселля" яны і скублі, як вясковыя кабеты, пер'е, чысцілі і рамантавалі боты, але і куплялі асабістую бялізну ў беластоцкай гандляркі. Ага! Пілі ўжо не адным кілішкам, як у іншых вясковых калектывах, а аж чатырма, ды яшчэ крыштальнымі!

Чыжаўянкі паказалі фрагмент вяселля „Перапіванне". З гармонікам, сватам і маршалкам, перавязаным ручніком, з маладымі. Віталіся і бралі ў рукі шкляначкі — усё праз хустачку. Цікавы звычай!

Пасля выступлення кожны калектыў частаваў публіку аладкамі, пірагом, каўбасою. Усім, што было на іхнім стале. Частаваліся нават французы, якія хацелі паглядзець беларускую абраднасць. Прыехалі спецыяльна з Беластока (дзве асобы — з Парыжа, адна — з Эльзаса). Дырэктар нарваўскага асяродка культуры, Ірэна Шастай, двоілася і троілася: арганізоўвала, займалася гасцямі, рабіла здымкі фотакамерай, хаця агляд вяла сакратар Беларускага таварыства Валянціна Ласкевіч.

Толькі гмінных улад на аглядзе не было. Пэўна мелі ў той час важнейшыя справы.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*



*Жанчыны з Краснага Сяла выступілі са сцэнкай „Скубанне пер'я".*

 

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

## А дарога вузкая

**1**

У далонях нясуць агонь,
а агонь боскі,
а крык пераможны,
а зямля гразкая,
а неба далёка.
Кроў і смерць поплеч —
дарога вузкая,
не размінуцца.
Убачылі твары свае
і зразумелі.
На сцяне сямейная фатаграфія
і дубіна.

**2**

Алтар ахвярны будуюць,
не багам,
а сабе,
і не багам моляцца,
а сабе.
І ёсць кнігі святыя,
не ад багоў —
ад мудрацоў.
І прамаўляюць яны
голасам неба.
Кроў і смерць поплеч —
дарога вузкая,
не размінуцца.
Убачылі твары свае
і зразумелі.
На сцяне сямейная фатаграфія,
кадзіла і меч.

**3**

Лічбы ўкладваюць у гармонію
сэнсу
і словы ўзважваюць,
і моц займелі вялікую,
а пад нагамі попел,
а над галовамі неба,
і блізка.
Кроў і смерць поплеч —
дарога вузкая,
не размінуцца.
Убачылі твары свае
і зразумелі.
На сцяне сямейная фатаграфія,
і кніжка, і пісталет.

**4**

Багі у тогах чакаюць —
дарога вузкая,
не размінуцца.

## Сумненне

Іду дарогай,
а тут бездарожжа.
У сумленне грукаю,
а птушкі гінуць.
Чакаю,
чаканню няма канца.
Бачу, людзі маўчаць,
а кажуць — б'юць у далоні.
Шукаю выйсця,
дзе яго няма,
куру цыгарку,
а гараць вусны.

## З пазазем'ем

Хоць крадком, а дайсці б да берага
і ўбачыць, што там.
А потым ля кастра,
гартаючы бульбу ў прыску,
сказаць: — Не адзінокі я.
Мо і не ўсё зразумеў,
няважна,
галоўнае — я з вамі.

## Відавочны

У кожным кроку,
у кожнай хвіліне,
у кожнай кроплі,
у матчынай роспачы,
у жэсце лініі гарызонта,
у маўклівым унушэнні дрэва,
у лічбе вылікаў розуму,
у ране душы,
у фінішнай гонцы,
у сімволіцы слова
ёсць сэнс.

**Юры Весялкоўскі**

## Беларусь — мая Радзіма

Беларусь — мая Радзіма,
Беларусь — мая Айчына.
Я з табою развітаўся,
Больш ніколі не спаткаўся.

Хваля вайны адарвала
І на хрыбце сваім гнала,
І загнала аж за мора,
Каб не бачыў бяды, гора.

Час вайны — перажыванні,
Па вайне — неспадзяванні,
Замест міру і спакою,
Кроў цякла яшчэ ракою.

Турмы, лагеры і здрада —
Мудрай партыі улада.
Рэй вялі тут камуністы,
Брудных спраў спецыялісты.

Прыйшла на іх свая пара,
Як тая ясная зара,
І паў камуны бастыён,
Дзе акапаўся іх легіён.

Дэмакратыя паўстала,
А камуна ўсцяж не спала,
Яе лідэраў прамовы
Катам падняді галовы.

Да улады прыйшла кліка,
А работа ў ёй вялікая,
Хоча стварыць стары саюз,
Дзе будзе права гвалт, прымус.

Беларусь зноў у няволі
Супраць сваё добрай волі,
Ёй кіруюць рэнегаты
І наехаўшыя каты.

Рэнегаты поўны здрады,
Выдаюць свае загады,
Бачаць у Маскве збаўленне —
Іхняе задавальненне.

Падпісалі кару смерці,
Беларусь каб з карты сцерці,
Урачыста адзначалі
І прамоў не шкадавалі.

Лукашэнка піў гарэлку
За сваю прадажну „сделку",
Бласлявіў на свае „круги"
Пытрыярх Алексій Другі.

Гісторыя не прабачыць,
Прыйдзе час, народ убачыць,
Што рабілі „патрыёты",
Гандляры Іскарыёты.

Беларусь — мая Айчына,
Што за народ, за краіна,
Што не хоча жыць свабодна,
Лезе у ярмо лагодна?

Праз стагоддзі ты стагнала,
Цябе ўсяка чэрнь таптала,
Тваю годнасць зневажала;
Яшчэ табе гэта мала?

Прабудзіся ты, народзе
І скажы сам сабе: — Годзе!
Беларусь не Масквы справа,
Хай жыве свая дзяржава!

*Лондан, красавік, 1996 г.*

# Ліст у рэдакцыю

**Паважаны рэдакцыйны калектыў тыднёвіка „Ніва".**

Звяртаюся з вялікай просьбаю надрукаваць на старонках нашага пачэснага тыднёвіка словы абурэння і пратэсту супраць ілжывым выказванням дыпламатаў рэжыму Аляксандра Лукашэнкі па справе праведзенага пікета 1 траўня 1996 г. у Беластоку. На самай справе пікет пратэсту праведзены быў у мірных абставінах ля будынка Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. Сцвярджаю, бо асабіста ўдзельнічаў я ў гэтым пікеце, што быў ён праведзены, каб выказаць рашучы пратэст супроць парушэнняў правоў чалавека ды жорсткага разгону мірнай дэманстрацыі жыхароў Менска ў 10 угодкі чарнобыльскай трагедыі. Удзельнікі пікета хацелі сустрэцца з генеральным консулам, каб з яго ных вуснаў даведацца, што сапраўды здарылася ў Менску 26 красавіка 1996 г. Некалькі хвілін удзельнікі пікета чакалі спадара Слямнёва. Аднак калі консул не выйшаў на спатканне, удзельнькі пікета ў знак пратэсту спалілі партрэт чалавека, які сваімі дзеяннямі парушае канстытуцыйныя законы дзяржавы і які паставіў сабе за мэту ліквідаваць незалежны дзяржаўны быт Беларусі, ды аддаць нашу Бацькаўшчыну ў каланіяльную расейскую няволю.

Прадстаўнік рэжыму назваў спалены партрэт Лукашэнкі дзяржаўным сімвалам Рэспублікі Беларусь. Такое выказванне, на маю думку, можа рабіць толькі чалавек, які не разумее, што такое дзяржаўныя сімвалы. Удзельнікі пікета з вялікаю пашанаю і годнасцю трымалі ў руках сапраўды дзяржаўны сімвал Беларусі — бел-чырвона-белы сцяг, а лукашэнкаўскага — чырвона-зялёнага — увогуле на будынку консульства не было. Якое ж жахлівае здзіўленне навяло выказванне другога прадстаўніка рэжыму, пасла Бурскага з Варшавы (па Беластокім радыё) наконт падзеяў 26 красавіка ў Менску. Спадар Бурскі гаворыць, што ў Менск прыехала каля трыццаці украінскіх нацыяналістаў, якія мелі намер рабіць дзяржаўны пераварот. Шкада, што сп. Бурскі не сказаў, колькі рэжым Лукашэнкі кінуў супроць мірных дэманстрантаў батальёнаў АМОНу, міліцыі, КДБ ды жаўнераў, якія дубінкамі білі жанчын, дзяцей, школьнікаў, праводзячы арышты невінаватых грамадзян, у тым ліку дзеячаў апазіцыі. Не на украінскіх нацыяналістаў рэжым Лукашэнкі выпусціў раз'юшаных амонаўцаў, але супроць сваіх грамадзян. Пытаю тады: „Прадстаўнікі рэжыму, чаму хлусіце!" Я яшчэ раз рашуча пратэстую супроць нягуманітарных паводзін слаўных органаў рэжыму Лукашэнкі, накіраваных супроць удзельнкаў мірнай дэманстрацыі 26 красавіка 1996 г. у Менску і патрабую вызваліць арыштаваных дзеячоў Беларускага народнага фронту.

**Ю. Пракаповіч**

*Беласток, 10 траўня 1996 г.*

**З маёй званіцы**

# Кыча, дэ?

Этымалогіі і генезісу слова *кыча* я не ведаю і нават забыў аб тым, што сам яго ўжываў 55 гадоў таму. Неяк яно мне ніколі не прыходзіла ў галаву нават тады, калі пісаў аб сваім пастушыным лёсе. Думаю, што гэта дэфармаванае беларускае слова *акыш*, якое ўжываецца для адгону птушак або назойлівага суседа: *Акыш, маро, згінь-прападзі!* У маім Грабаўцы ды ў наваколлі гэтым *кыча, дэ?* адганяюць авечак, калі яны цэлым гуртом пруцца, бы тыя свінні, у зялёнае збожжа — шкоду, або запыняюць, калі дурная авечка не трапляе на свой панадворак, а бяжыць кудысьці ў *блуды*. Агульна кажучы, *кыча, дэ?* значыць *куды лезеш?* Але яно гучыць вельмі па-чужому. Так, як бы дзесьці ў аулах ці іншых кішлаках. Белая Русь запазычыла яго дзесьці з Азіі, як *акыш*, а наш, тутэйшы народ перарабіў яго на *кыча*, як перарабляе шмат што іншае, называючы гэта ўзбагачэннем або развіццём мовы.

Гэта слова прыйшло мне на думку ў першай дэкадзе мая гэтага года, калі я, некалькі гадоў пасля разбурэння помніка савецкім дзецям-воінам, адведаў беластоцкія Плянты — парк, якім ганарыцца горад, месца шпацыраў і адпачынку мяшчан. А так, дарэчы, хочацца запытаць дзеячаў КПН, чаму яны не паедуць у Вену, каб і там разбурыць падобны помнік або прымусіць аўстрыйцаў, каб гэта за іх зрабілі.

Беластоцкія Плянты прыгожыя здалёк, а найпрыгажэйшыя з самалёта. Але калі ўвайсці туды, дык складаецца ўражанне, што ходзіш па сметніку. Лаўкі, скверы і ставы замест прыемнасці для вачэй дастаўляюць агіду. Усюды густа паперы, каробак з-пад розных сыроў, маргарынаў, ёгуртаў, кефіраў і іншых напіткаў, на лаўках ляжаць кавалкі бутэрбродаў і размоклае марожанае, не гаворачы ўжо пра рознага тыпу бутэлькі і бляшанкі. Не бракуе, хаця цяжка зразумецць чаму, і ануч.

Калісьці трэба было мне паехаць у Кляосін. Пры нагодзе зайшоў я і ў лес, бо неяк без яго мне цяжка жыць. Але не суцешыўся я выглядам „народнага багацця". Сустрэў я там столькі пабітага шкла, гаршкоў, торбаў, паперы, бутэлек, банак, дроту і чаго толькі хочаце, што страшна ступаць. Плянты ад гэтага і іншых лясоў, а быў я там якраз тады, калі адбывалася ў Польшчы агульная акцыя ачысткі лясоў, адрозніваюцца толькі тым, што на Плянтах можна пакаўзнуцца і грымнуць на сабачых адыходах, а ў лесе — на чалавечых. Тут няма ніякага закіду ў адрас прыбіральшчыц Плянтаў, бо хто здолее цэлыя суткі сачыць за неахайнікамі?

Справа ў тым, што грамадзяне Польшчы не маюць пачуцця эстэтыкі, дысцыпліны ды культуры ў сужыцці. Адначасна маюць агромную амбіцыю быць паўнакроўнымі еўрапейцамі, на якіх хтосьці мусіць працаваць, каб яны маглі гуляць. І вось тут мне, бы вырванаму з летаргіі, захацелася крыкнуць: „Кыча, дэ?!" Гэта павінны сказаць перш за ўсё немцы, якія любяць парадак, чысціню, дысцыпліну і... працу. У іх *бэфэль іст бэфэль*, а нам *з чым до госьці*, як гавораць палякі. У іх сметніцы ў парках і на вуліцах для таго, каб туды кідаць смецце, а не як у нас, сметніцы пустыя, а наўкол іх — сметнік. А які нямецкі ўрад дапусціў бы, каб вадаёмы былі загружаны рознымі адкідамі, а не качкамі, рыбай і лебедзямі? У нас пасля вайны гэтаксама было, але звялося, бо непатрэбнае. А ці ж не маглі б галодныя людзі, якіх — паводле статыстыкі — у нас не бракуе, злавіць сабе на абед карпіка ці хаця б карасіка? Не, іншыя дзеці па вуліцах збіраюць грошы для галадаючых дзяцей, а шмат дабра проста марнуецца. Але дзе там! Так лягчэй: сабраць грошы і прыдбаць ім хлеб, куплены ў Канадзе за долары.

Прэмся ў еўрапейскія структуры, як няпрошаныя госці, бо думаем, што яны будуць на нас працаваць, а мы толькі спажываць выпрацаванае кімсьці дабро і гуляць па парках ды выязджаць да нашых карміцеляў па турыстычных пуцёўках. А нашы паркі і вуліцы будуць прыбіраць нямецкія прыбіральшчыцы. Адпомсцім за фашызм.

Я гэта напісаў і паставіў кропку. Але, калі ахамянуўся, падумаў: а мо гэта і добра, што ўвапрэмся, каб быць у Еўрапейскай уніі і НАТО, бо тады Злучаныя Штаты Амерыкі возьмуцца навучыць нас парадку, дысцыпліны і культурных паводзін. Гэта будзе згодна з нашай ментальнасцю і характарам. Мы любім, каб нас нехта ганяў і намі валодаў. Затое не любім слухаць сваіх, няхай сабе і талковых, людзей. НАТО давядзе да таго, што і ракетчыкі, і пілоты, і падраздзяленні хуткага рэагавання будуць адпачываць у чысціні сярод культурных тубыльцаў. Я — за НАТО! Адмяняю загаловак.

**Васіль Петручук**



 

# Сіла лёсу

Зоя і Іван пажаніліся 8 гадоў таму. Пасля шлюбу хутка атрымалі кватэру. За тры гады паявіліся ў іх дачка і сын. Здавалася, што іх сямейнае жыццё стабілізавалася; абое былі адукаваныя: яна працавала ў бюро, ён геадэзістам на дзяржаўным прадпрыемстве. Выхаваўчага водпуску Зоя не брала, дзяцей даглядала бабуля, а калі памерла, нанялі няньку. Іван часта бываў у камандзіроўках і дзяцьмі не мог займацца, аднак папракаў жонку, што наймае няньку; суседзі таксама падсмейваліся з такой раскошы. Часам і да сварак даходзіла. Зоя, наперакор мужу, пасябравала са сваёй гаспадынькай і штораз часцей запрашала яе на каву і бабскія дрындушкі. Івана грызла жончына ўпорства і ў рэшце рэшт звярнуўся да сябра за радай. Сябра, пры выпіўцы, параіў не аддаваць жонцы зарплаты, бо без грошай, гаварыў, хутка скорыцца. Іван ажыццявіў гэту раду, аднак ад гэтага ў сямейнай сітуацыі нічога не змянілася. Пасля трох месяцаў зноў адбыў нараду з сябрам. Пры чарцы дайшлі да вываду, што найлепшым спосабам на тое, каб пазбыцца гаспадынькі, будзе спакусіць яе. Калегі вырашылі, што стройнаму Івану не даставіць гэта ніякіх праблем. Вярнуўшыся дадому Іван засціг жонку з нянькай за чаркай і без традыцыйнай сваркі далучыўся да кампаніі. Бяседа зацягнулася да позняга вечара. Гарэлка, выпітая ў сямейнай атмасферы, зблізіла людзей і таму Іван беспраблемна дагаварыўся на асобную сустрэчу з нянькай сваіх дзяцей у яе кватэры. Да спакусы, аднак, не дайшло, бо бабская салідарнасць узяла верх над Іванавымі намаганнямі. Жончына сяброўка не толькі выдварыла Івана за дзверы, але яшчэ і расказала пра ўсё Зоі. Жонка не толькі аблаяла яго, але нададатак адставіла і ад стала, і ад ложка. Да таго ж штодзённыя візіты гаспадынькі балюча паглыблялі яго ўніжэнне. Аднойчы, выпіўшы, вырашыў адмахнуцца ад усіх клопатаў у таварыскім агенцтве. Таемная атмасфера вельмі яму спадабалася. Цана паказалася прыстойнай. З нецярплівым хваляваннем чакаў у ружовым пакоі. Адчыніліся дзверы і паказалася ў іх... яго Зоя. Да вялікай авантуры не дайшло, бо ўварваліся ахоўнікі і выдварылі раз'юшанага Івана з салонаў платнай любові.

На другі дзень, калі Іван крыху астыў, Зоя заявіла яму, што гэтакім чынам здабывае грошы на жыццё, якіх ён яе пазбавіў.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Пажараманія ў Дубне

*(працяг са стар. 1)*

што за акном неяк ясна зрабілася. Пра ляскат, які ішоў ад палаючай дахоўкі, я падумала, што зноў у тэлевізары страляюцца. Аж тут другі хлопец крычыць: „Татку, клуня горыт!" Кінуліся мы ўсе дабро ратаваць. Я ў сарочцы выбегла. То цялят павыганялі, а свінні так і пагарэлі. Трактар ужо *жэшкі* быў, але неяк выцягнулі. А пазней ужо не было ратунку. За пятнаццаць хвілін клуня датла згарэла. Сена, воз, збожжа, дровы — усё прапала.

* * *

Дубна знаходзіцца ў чатырох кілametrах ад Боцек. Мясціну атуляюць лясы. Перад вёскай вялікая сажалка. Пасуседску — пажарнае дэпо.

— Цяпер у нас прадпрымальны солтыс, — гаворыць пра Ніну Гуральчык з Дубна.

Яна заадно і радная ў гміне. Дзякуючы яе заангажаванню ў вёсцы завяршаецца новы будынак вясковага „клюбу". Вёска налічвае звыш двухсот жыхароў. У мясціне слаўная на ўсё наваколле пажарная каманда. У ёй дванаццаць чатыры хлопцы і старэйшыя мужчыны. Калі пажар, усе ідуць змагацца з агнём.



*Спалены маладняк.*

Пажары ў Дубне пачаліся з 1994 г. Было сухое, спякотнае лета. Найперш гарэў лес. Пазней прыйшла чарга на дзве стадолы. Яшчэ пазней адратавалі гаспадарчы будынак.

Клуні гарэлі і ў навакольных вёсках: Малочках, Снежках, Нурцы. У Дубне загарэўся таксама магазін. Агонь успыхаў там некалькі разоў. З гэтым магазінам было амаль так, як з апошнім пажарам лесу. Дубянцы зрываліся некалькі разоў у тую ноч. Тады таксама не сціхала сірэна. Усе пажары адбыліся ў адны дні тыдня — з аўторка на сераду.

* * *

— Я каб такога злавіў, то на месцы яму галаву адкрунуў бы, — чую ў вёсцы пагрозу ў бок пірамана.

— Бо цяпер праўды ў судзе не дойдзеш. Трэба двух сведкаў, каб судзіцца. А хто яго ведае, як з турмы выйдзе! Усю вёску яшчэ з дымам пусціць? — нагакаюць пакрыўджаныя жыхары.

Пра нервы жыхароў Дубна і гаварыць пры гэтым усім непрыстойна.

— Страх невыносны, — кажа Надзея Алексяюк. — Як чую сірэну, то ўся мёртвая раблюся, дрыжаць рукі і ногі, страх нясцерпны находзіць. І дых займае.

— Іншыя бабы плачуць, — гаворыць Аляксандр Рыбачук.

— А я, як тэлефон уначы чую, то таксама пра адны пажары думаю. Гляджу ў акно, ці вёска не гарыць. Ды і ратунку ад гэтага страху нідзе не знойдзеш, — задумоўваецца Ніна Гуральчук.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Усе дзеці — вашы?

Ішла Бажэна на працу на першую змену. Недалёка будынкаў прадпрыемства пачула дзіцячы плач. Спачатку падумала, што нехта нясе дзіця ў яслі, але не было відаць нікога з каляскай. Плач заціх. Можа, гэта кот мяўкаў?.. Але пасля нешта зноў прапішчала. Не, гэта напэўна дзіця! Хацела пашукаць, але стораж не ўпусціў бы яе на тэрыторыю прадпрыемства, запісалі б ёй спазненне... Пабегла хутчэй да брамы.

— Слухайце, — закрычала сяброўкам, што апраналіся ў службовае адзенне, — я толькі што чула плач немаўляці!

— Э, што ты кажаш, — засмяяліся супрацоўніцы. — Марцуюць каты не ў пару, яны падобна клічуць адзін аднаго.

Бажэна пачала працаваць, але ўсё яе трывожыў успамін пра тоненькі, бездапаможны галасок. Работа не давалася ў рукі.

Недзе каля дзесятай гадзіны дырэктар загадаў спыніць працу і ўсім перайсці ў святліцу. Там чакаў пахмурны паліцыянт.

— Хачу ведаць, — азваўся ён, — каторая з вашых працаўніц была цяжарнай. Я гадзіну таму знайшоў у рэкламным кульку немаўля. Можа быць, яго пакінула ваша працаўніца.

— Не можа такога быць. З нашых жанчын, якая мела нарадзіць, нарадзіла, гадуе. Хто ў выхаваўчым дэкрэце, хто працуе, — сказаў за ўсіх дырэктар. — А што скажаце вы, жанчыны?

— Не можа быць, каб якая з нашых такое зрабіла, — адказалі хорам.

— Ці яно жывое? — запытала Бажэна. — Я, ідучы на працу, чула плач, але думала, што гэта каценя. Каб я тады яго пашукала!..

— Будзе жыць. Гэта хлопчык, прыгожы, вялікі. Я завёз яго ў бальніцу. Прастыў крыху, але мае толькі насмарк, дзякуй Богу. Шкада толькі, што нікому гэта дзіцянё непатрэбнае, і невядома, чыё яно...

Паліцыянт прасіў прабачэння за перапынак у працы і пайшоў, але жанчыны ніяк не маглі супакоіцца і ўзяцца за работу.

— Што гэта парабілася з людзьмі — нявінных дзяцей выкідаюць у торбах, як нейкае смецце! — гаманілі працаўніцы. — Усяму вінаваты ўрад, малыя пакаранні дае за злачынствы! За дзетазабойства трэба было б гэтых дэгенератаў караць смерцю!

Бажэна суцяшала сябе, што бедны сіротка жыве. Толькі што яго чакае ў будучыні? Які ён вырасце, не ведаючы бацькоўскай і мацярынскай любові?..

Бажэне тыдзень таму лекар сказаў, што дзіцяці яна ніколі не народзіць. А іншая жанчына, якой Бог даў стаць маці, выраклася таго дару...

**Аўрора**

# Цяжкая хвароба

Перад кабінетам урача сустрэліся дзве сяброўкі, якія даўно не бачыліся. Сталі гаварыць пра мінулае. Чарга была доўгая, урач спазняўся на працу і сяброўкі мелі многа часу для сябе. Закончыўшы ўспаміны, пачалі гаварыць пра тое, з чым сюды прыйшлі.

— Што з табой, Вольга?

— Ой, у мяне грып. Доктар загадаў некалькі дзён ляжаць у пасцелі, але ведаеш, як гэта пры малым дзіцяці — не паляжыш. Ну, і я яшчэ цяпер хворая, толькі лякарствы скончыліся. А ты?

— Ой, і я вельмі хворая. Доктар, у якога я раней лячылася, гаворыць, што я здаровая. А я і так пераканаўная, што ён сам не ведае, што рабіць. Цяперашнія дактары нічога не ведаюць, у нічым не разбіраюцца. З дзяцінства ў мяне мігрэнь. Мая суседка сказала, што пры гэтым могуць яшчэ і іншыя хваробы прычапіцца. Я хутка купіла сабе „Лексікон хваробаў". І якраз я цяпер зразумела, якая я хворая. Мяне часта баліць жывот і пад літаркай „а" я прачытала, што гэта можа быць апендыцыт, а можа атручанне або расстрой страўніка, а самае найгоршае, што гэта можа быць запаленне брушыны. Ой, галавакружэнне ў мяне частае, можа гэта анемія. Я вельмі ўражлівая на змены ціску, гэта значыць, што маю праблемы з сэрцам. Я хворая калі дождж і калі сонца. І кашаль мяне мучыць. Так, так, туберкулёз магу мець. Ой, якая я хворая! І ў касцях штосьці адчуваю. Ой, гэта напэўна запаленне надкостніцы...

— Але ж, Антаніна, надкостніца гэта толькі...

— Ціха, я лепш ведаю. Я маю лексікон. У гэтай кніжцы, ведаеш, у лексіконе я прачытала, што рэўматызм можа быць і ў моладзі. Я думаю, што мой сынок Цэзар мае гэтую хваробу. Ой, ён таксама вельмі хворы і галава яму баліць, і вочы, і...

А Вольга так слухала і слухала, ды вочы ў яе рабіліся круглыя ад здзіўлення і ад жалю. Хутка ішоў час. Чарга памяншалася, аж на канец і яе сяброўцы трэба было ўвайсці ў кабінет.

— Мая дарагая, — сказала Антаніна. — Цяжкае маё жыццё. Ой, цяжкае. Іншыя здаровыя, толькі я і мая сям'я — мой Цэзар, хворыя. Іду, хаця не веру, што доктар мне паможа.

А Вольга цяжка ўздыхнула, паколькі ўжо забыла, з чым сюды прыйшла, з якою хваробаю. Ёй таксама стала цяжка і так вельмі жаль ёй было нешчаслівай Антаніны, што адразу пайшла дадому. Там усё расказала мужу.

А муж проста адказаў:

— Ведаеш, дарагая жонка, на мой просты розум то ў яе хворая толькі галава, а астатняе ўсё здаровае.

І спакойна заняўся малышом.

**Анна Даманская**

## Кніжка — твой прыяцель

Зараз Мейска-гмінная публічная бібліятэка ў Кляшчэлях разам з філіялам у Палічнай налічвае 19 тысяч тамоў і 690 чытачоў, з таго 575 у горадзе. Ёсць тут паўтысячы беларускіх і рускіх кніжак, якія чытаюць трыццаць пяць чалавек.

Кожны год бібліятэкарша Анна Шчыгал купляе 150 кніжак, у асноўным мастацкую літаратуру. Якраз на яе тут найбольшы попыт.

У Кляшчэлях найбольш кніжак чытаюць — сярод дарослых: Мар'я Галэцкая, Антаніна Леанкевіч і Васіль Каліш, а сярод моладзі і дзяцей: Анна Гапанюк, Аліна Герасімюк, Барбара, Юліта і Іаанна Рошчанкі, Анна Красоўская ды Агнешка і Бажэна Нараўскія.

Сёлета кляшчэлеўская публічная бібліятэка будзе перанесена ў новапабудаваную школу ў цэнтры горада, дзе будуць лепшыя ўмовы да працы. **(яц)**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**26 мая**

1865 г. — канец грамадзянскай вайны ў ЗША, у якой загінула 600 тыс. чалавек.

1938 г. — Адольф Гітлер залажыў краеугольны камень пад аўтазавод „Фольксваген” у Вольфсбургу.

1970 г. — савецкі суперсанічны самалёт ТУ-144 упершыню перавысіў двайную хуткасць гука.

1972 г. — Леанід Брэжнеў і Рычард Ніксан падпісалі дагавор SALT-1.

1992 г. — галандскі парламент вырашыў з 1993 года легалізаваць прастытуцыю.

**27 мая**

1564 г. — памёр Ян Кальвін, швейцарскі рэфарматар рэлігіі.

1905 г. — марскі бой пад Цусімай, у якім японцы разбілі расейскі флот.

1931 г. — швейцарскі фізік Аўгуст Пікар падняўся на паветраным шары на вышыню 15 781 метр.

1942 г. — у Празе праведзена атэнтат на нямецкага пратэктара Чэхіі Гейдрыха.

**28 мая**

1812 г. — у Бухарэсце падпісана мірны дагавор між Расіяй і Турцыяй; Расія атрымала Бесарабію і ўсходнюю частку Малдавіі.

1961 г. — у Лондане заснавана *Amnesty International*.

1969 г. — выйшаў у свет зборнік прозы Сакрата Яновіча „Загоны”.

**29 мая**

1453 г. — туркі здабылі Канстанцінопаль, канчаючы існаванне візантыйскай дзяржавы.

1917 г. — нар. Джон Кенедзі, амерыканскі палітык.

1933 г. — нар. пісьменнік Мікола Гайдук.

1953 г. — новазеландзец Хілары і шэрпа Тэн Зін упершыню ўвайшлі на Монт-Эверэст (8848 м.).

1974 г. — Іцхак Рабін замяніў Гольду Меір на пасадзе прэм'ер-міністра Ізраіля.

1985 г. — падчас фінальнага матча на кубак Еўропы на стадыёне „Хейзель” у Брусэлі ў выніку боек загінула 39 балельшчыкаў і сотні паранена.

**30 мая**

1431 г. — Іаанна д'Арк, французская нацыянальная гераіня, пасля абвінавачання ў вядзьмарстве, спалена на кастры.

1866 г. — прапрэм'ера оперы „Прададзеная нявеста” Беджыха Сметаны ў Празе.

**31 мая**

1869 г. — у Парыжы адбыліся першыя аўтагонкі.

1901 г. — расейскія ўлады забаранілі пісаць пра кнігі Льва Талстога.

1912 г. — у Лондане адкрыта першы аўтамабільны музей.

1962 г. — у Ізраілі выканана смяротны прысуд на гітлераўскім злачынцы Адольфе Эйхмане; цела спалена, а попел развеяна па моры.

**1 чэрвеня**

1434 г. — памёр Уладзіслаў Ягайла, польскі кароль.

1780 г. — нар. Карл Клаўзевіц, нямецкі ваенны тэарэтык.

1889 г. — у Нью-Йорку выйшла першая тэлефонная кніга.

1894 г. — нар. Анатолій Благанраваў, канструктар „Кацюш”.

1926 г. — нар. Мэрлін Манро, амерыканская актрыса. **(Ш)**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. яда сярод дня, 8. мужчынскае імя, 9. прыпеў, 10. паўднёвае пладовае дрэва, 11. адзін за адным, запар, 13. 60 секунд, 15. драпежная жывёла сямейства куніц, 16. пукаты дах у выглядзе паўшар'я, 20. славянская азбука, 22. тупарылы кракадзіл, 23. шырокі рамень для пераноскі грузу, 27. вага літра вады, 29. сельскагаспадарчая прылада з зубамі, 30. антыльская выспа, 31. запруда на рацэ, 32. балканская сталіца, 33. небяспечная рыба, 34. палотнішча на дрэўку.

**Вертыкальна:** 1. вадаспад у Бразіліі, 2. загарадзь для авечак, цялят, 4. лёгкая спартыўная лодка, 5. падзея, якая прыносіць няшчасце, 6. багіня мудрасці ў даўніх грэкаў, 7. даход ад капіталу або зямлі, 12. пышны полаг над ложкам, тронам, 14. вывучае рыб, 16. кіславаты напітак, 17. пагардлівая мянушка дзівака, 18. Тайланд даўней, 19. парода вярбы, 21. навадненне, 24. выспа на Караібскім моры, 25. куртка са стаячым каўняром, 26. частаванне з выпіўкай пры куплі-продажы, 27. мера вагі роўная 0,2 грама, 28. вялікі афрыканскі горад. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 13 н-ра:**

**Гарызантальна:** паласа, рэклама, Равека, валакно, мангол, нераст, эсмінец, башлык, Ларнака, элегія.

**Вертыкальна:** Ерэван, скаляр, каркас, паром, Лаван, сукно, Асмара, ганчар, лоцман, есаул, аблог, Тэкля.

*Спорт*

# Юныя тэнісісты

У Нараўцы адбыліся турніры настольнага тэніса. Удзельнічала ў іх больш за 30 вучняў з Нараўкі і Старога Ляўкова. Пераможцам стала спартыўная каманда з Пачатковай школы ў Ляўкове. Найлепш зарэкамендавалі сябе ў катэгорыі дзяўчат **Анна Грыка і Анна Ахрымюк** ды ў катэгорыі юнцоў **Міхась і Пётр Аніськевічы, Кшыштаф Грыц, Пётр Краскоўскі, Марцін Рубчэўскі, Сілвестар Ахрымюк, Тамаш Харкевіч і Міхась Сахарчук.**

Сярод нараўчанскіх вучняў да найлепшых тэнісістаў належаць: **Анна Краснапольская, Войцех Внук і Рафал Рубчэўскі. (яц)**

## Што будуюць у Нараўчанскай гміне

Зараз у Нараўчанскай акрузе шмат што будуюць, а ўжо перш-наперш школу ды каналізацыю ў Нараўцы, вадаправоды ў Масеве II, Мінкоўцы, Леснай і Скупаве, а таксама звалку смецця ў Нараўцы.

Калі толькі закончаць пабудову каналізацыі дык адразу пачнуць мадэрнізацыю вуліцы А. Міцкевіча ў Нараўцы.

У бліжэйшым часе плануюць пабудову ачышчальні сцёкаў у Старым Ляўкове. **(яц)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне калега з працы, з якім я працую ўжо шмат гадоў. Дагэтуль ніколі ён мне не прысніўся і не думала я пра яго зусім.

І вось сніцца мне, што я знаходжуся ў нейкай гасціне. Бачу гэтага калегу. Ён сядзіць пасярэдзіне, з аднаго яго боку — маці, з другога — цешча. А я ж ніколі ў жыцці не бачыла ні яго маці, ці цешчы.

Гляджу, на стале стаяць у вазе прыгожыя фрукты: апельсіны, бананы, вінаград. Я падумала, што варта іх паспрабаваць усім. Пачынаю ад маці і цешчы майго калегі, ён устае з-за стала і пачынае мне памагаць. І раптам заўважаю, што ўсе гэтыя смакоцці гнілыя. Па руках майго калегі цячэ ні то сок, ні то нейкая цёмная непрыемная жыжка.

Астроне! Нават баюся расказваць гэтаму калегу пра мой сон. Я ведаю, што ў яго вельмі хворая маці. Ці гэты мой сон не сведчыць пра тое, што яе стан можа яшчэ пагоршыцца? **Оля**

Оля! Сапраўды нешта не будзе ладзіцца ў сям'і твайго калегі. Калі сняцца свежыя, прыгожыя фрукты ці фруктовы сад, тады ўсё ў сям'і будзе добра, шчасліва. У тваім жа сне шчасце было толькі ўяўнае, бо ў сярэдзіне фруктаў усё было гнілое. Паколькі ў тваім сне паявіўся калега з працы з маці і цешчай, не абавязкова штосьці можа здарыцца з яго маці, але можа таксама і з цешчай, і з ім самім. **АСТРОН**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4625. Даход з „барбэкю”, арганізаваных 8.10.1995 і 19.11.1995 г.
Беларускім аб'яднаннем Паўднёвай Аўстраліі — 585,55 аўстрал. дол.

4626. „Ахвярны стол” (арганізавала матушка Вольга Бурнос
з дапамогай спадарства Галіны і Мікалая Кандрусікаў
і сп. Брыджыт Карпінскай) — 216,90 аўстрал. дол.

4627. Ахвяраванні ад Беларускага аб'яднання
ў Паўднёвай Аўстраліі (старшыня — Мікалай Колес) — 200,00 аўстрал. дол.

Усяго разам — 1002,45 аўстрал. долараў.

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# ПАРНАСІК

### Як любіць

Як любіць таго, хто нас не любіць,
А яшчэ прыгалубіць?
Гэта цяжкая справа
І для нас гэта не слава.
Любім таго, хто нас паважае,
Шырока праслаўляе,
Кланяецца нізка,
Жыве блізка.
Мы тады яшчэ лепш яго падносім,
Славу аб ім разносім,
Што ён чалавек цудоўны,
Чуллівы, размоўны.
Для нас ён аўтарытэт,
Жадаем яму многа лет.
А для сябе яшчэ больш
І каб жылося не горш.
А таго, хто на нас крыва глядзіць —
Немагчыма з ім жыць!
Мінаваць яго здалёка —
Будзе нам палёгка.
Пра яго мы добра не скажам,
Для нас ён амаль праказа.
А хто няшчасны, бедны,
Ён нецікавы, амаль *урэдны.*
Любім гладка ісці
І думаем дарогу да Хрыста знайсці.
Немагчыма гэта!
І не да Хрыста дарога і мэта.
Хіба што з сябе эгаізм скінем,
Веру сваю і любоў падымем.
Любоў Хрыстову возьмем цалкавіта
І старацца будзем працавіта.
Ды мусім духова адрадзіцца
І не модзіцца.
Хрыста нікчэмнікі распялі
І гвалт, шум паднялі.
Але Хрыстос любіў іх і любіць
І хоча да сябе прыгалубіць.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

### Вясна

Вясна, вясна, ты як пралеска
Расцвітаеш у душы.
Ты пабудзь у нас даўжэй
І нікуды не спяшы.

Няхай народ павесяліцца
Тваёй прыгожай красатой.
А ты, вясна, бы маладзіца,
Не адыходзь, чакай, пастой.

Ты ў нас такая маляўніча,
Што ззяе вока, сэрца б'ецца.
Красой сваёй усім вядома
І пры табе нам лепш жывецца.

Ты — пасланы нам дар прыроды.
Ты ажыўляеш увесь свет.
Зрабі, каб усе народы
Не ведалі ні зла, ні бед.

**Ніна МІНЬКО**




**„Niwa”**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Склероз

Напаў знянацку на мяне склероз.
І памяць стала, быццам у старога:
Бывае, што пакутую да слёз,
А ўспомніць не магу анічога.

Аднойчы ў санаторыі быў я,
Дык там канфуз здарыўся, як у драме:
Забыўся, бач, што жонка ёсць свая,
Прызнаўся у каханні вабнай даме.

І залюляў дваіх дзівосны вальс,
Так захапілі майскія прыгоды...
Той момант, як заспела жонка нас,
Хоць і склероз, запомніў назаўсёды!

**Леанід Ломаў**
*З рускай мовы пераклаў Я. Рыжы*

## З народнага

Адзін другога не абрыдзіў,
Спяшалі разам на касьбу.
Кузьма Дзяміда паддзяміdзіў,
Дзяміd жа — падкузьміў Кузьму.

**Юрка Голуб**




*Малюнак Н. ЛЁЗІНАЙ*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Не пайду сёння ў школу, — гаворыць Ваня маме. — Дзеці мяне празываюць, прыбіральшчыца б'е анучай, настаўнікі не любяць...

— Ванечка, мусіш ісці ў школу! Што гэта за школа без дырэктара.

* * *

Сустрэліся амерыканец, рускі і паляк. Выпіваюць і перахвальваюцца:

— У нас ёсць такія вялікія грузавікі, што могуць змясціць харчы для ўсёй арміі, — кажа рускі.

— А ў нас такія ліфты, што ездзяць і вертыкальна, і гарызантальна, — кажа амерыканец.

— А мой дзядзька з Новага Тарга мае такі вялікі нос, што на ім можа памесціцца дванаццаць варон адна ля другой, — кажа паляк.

Пасля, аднак, не вытрымалі і давай папраўляцца:

— Салгаў я з гэтымі ліфтамі, — кажа амерыканец — яны ездзяць толькі вертыкальна, затое хутка і надзейна.

— А ў нашых грузавіках памесцяцца харчы толькі для адной роты, — прызнаўся рускі.

— Я таксама схлусіў, — прызнаўся паляк. — Мой дзядзька жыве не ў Новым Таргу, а ў Закапаным.

* * *

У дарозе на неба сустракаюцца душы двух мужчын і пачынаюць размаўляць:

— Я памёр ад холаду. Ведаеш, арганізм не вытрымаў нізкай тэмпературы, і канец. А ты?

— Я памёр ад здзіўлення.

— Як гэта?

— Вярнуўся з працы раней. Гляджу, голая жонка ў ложку. Шукаю мужчыны: заглядаю пад ложак, у шафу, на балкон, у туалет... Адным словам — усюды! І не мог яго знайсці. І ад гэтага здзіўлення памёр.

— Вось каб ты быў тады ў халадзільнік заглянуў... Жылі б мы абодва!

## Адна баба сказала...

Першы цёплы веснавы вечар ажывіў вёску. Мясцовыя старажылы змянілі печы на лаўкі ля хат. Нехта пачаў ужо калупацца ў агародзе. Падрослыя за зіму падлеткі павыцягвалі свае „ведікі" і лёталі па вуліцы, разганяючы курэй і гусей.

Мужыкі ля магазіна паспелі ўжо „замачыць" пачатак палявых работ і, хістаючыся, разыходзіліся па дварах.

Раптам недзе ў канцы вуліцы загаласіла баба.

— Параска крычыць. Мо маці памерла? Ёй жа за дзевяноста перавваліла, — сказала адна з бабуль на лаўцы.

— Нягож! Яна ж яшчэ сёння ў Моці паўшклянкі гарэлкі ляснула. Не, не магла яна памерці, — адразу запярэчыла другая старая.

Парасчын крык набліжаўся: яна, стокілаграмовая, імчала па вуліцы і лямантавала:

— Людцы мілыя! Ой, людцы мілыя! а-а-а! Забіла! Ой, забіла-а-а!..

Бабы ўмомант абступілі ашалелую ад адчаю жанчыну:

— Што ў цябе, Параска?

— Ой, не хацела ж я! Пакарай мяне, Божа, толькі ў турму не саджай!

— Ды што там у цябе здарылася? — дапытваліся нецярплівыя суседкі.

— Зяця я забіла! Ой, пакарай жа мяне, Божа, пакарай, але не турмою!

— Дык мо не зусім забіла, а трохі?..

— Як жа не зусім? Ляжыць — не дыхае. Ой, Божачка, лепш бы ён мяне забіў! — Параска зноў загаласіла і знямогла апусцілася на лаўку.

— Дык як гэта атрымалася? — дапытваліся бабы.

— П'яны прыйшоў. Пачаў на дачку налятаць, а яна ўжо другое дзіця чакае, я і не вытрымала, схапіла яго за каўнер ды хацела трасянуць добра, а ён... Ой, Божа, даруй, ты ж ведаеш, я не хацела, а ён вырваўся ды аб вугал галавою... І ўсё. Ляжыць — не дыхае.

— Дык мо жывы яшчэ, мо ачухаецца?

— Ды не! — безнадзейна махнула рукою Параска. — Два разы вадою пырскала...

Вясковы „тэлеграф" запрацаваў, і вестка пра забойства праз паўгадзіны дайшла да ўчастковага.

Сіні матацыкл мясцовага дэтэктыва затарахцеў па вясковай вуліцы.

Ля калонкі Гэля, Парасчына дачка, набірала ваду. Участковы прыпыніўся, спытаў маладую жанчыну:

— Труп не чапалі?

— Які труп? — спалохана спытала маладуха.

— Ну, мужа твайго, Васіля, — здзіўлена пагладзеў участковы на жанчыну.

Маладуха кінула вёдры і схапілася за матацыкл:

— Ну, што з ім зрабілі?

— Адна баба казала, — збянтэжыўся ўчастковы, — што твая маці забіла твайго Васіля.

Гэля ўзяла за рукаў міліцыянера і пацягнула за сабою ў хату. За сталом сядзелі зяць з цешчаю і мірна размаўлялі, толькі Параска час ад часу мачыла ручнік і прыкладала да зяцевай галавы. Той мацаў на макушцы здаравенны гузак і прыгаворваў:

— Гэта ж трэба, так дзеўбануўся!.. Анічогачка не памятаю...

**Зінаіда Вешка**

## Ясік-Акселерат

— Мама, — пытаецца маленькі Ясік. — навошта гэта ў нашай лазні зафарбаваны аконныя шыбкі?

— Гэта зроблена для таго, сынок, — тлумачыцца маці, — каб не было відаць голых людзей.

— Дзіўныя, аднак, людзі, — разважае Ясік. — І каму гэта патрэбна зазіраць у вокны лазні? Для гэтага ж ёсць тэлевізар.

**П. Антонік**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Калі мы толькі пажаніліся, было так кепска, што я ўжо думала: разыдземся! Буду жыць з дзіцём — і ўсё. Прынамсі будзе спакойна.

А ўсе сваркі пачыналіся ад зайздрасці. Мой муж не пераносіў, калі я некаму падабалася, нават тады нерваваўся, калі нейкі мужчына быў проста ветлівы ў адносінах да мяне. Куды не пайшлі мы — заўсёды скандал, бо быццам я глядзела на кагосьці, замнога ўсміхалася, была наогул занадта вясёлая. Праўда, што калі я прыходзіла да мужа з нейкай цяжкой праблемай, ён любіў мне дапамагчы, уважліва выслухоўваў, стараўся прыласкаць. Але, не дай вядзі Гасподзь, каб на забаве з некім затанцавала ці пасмяялася! Усё гэта было забраніравана для мужа... Вечныя сваркі не давалі мне спакою.

У маёй сяброўкі, якой я заўсёды пра свае сардэчныя тайны расказвала, жыццё выглядала зусім інакш. Ніколі яны не перагаварыліся пры людзях, ніколі я не пачула ад яго брыдкага слова, якое кінуў бы ён у адрас маёй сяброўкі. Я пацяху зайдросціла ёй, што пры мужу яна адчувае сябе, быццам бы ў аазісе спакою, а яна мяне не пераконвала, што ёсць інакш.

Гэтак я думала, пакуль не ўбачыла, як яно ёсць у сапраўднасці. Пасля некаторых фактаў высветлілася, што муж маёй сяброўкі гэта ідэальны акцёр. Калісь убачыла я яго з дзяўчынай. Ён прытварыўся, што мяне не заўважыў і нават не прывітаўся. Нехта з маёй кампаніі кажа: „О, ужо ізноў нешта новае знайшоў!" Я вельмі здзівілася і пачала распытваць. Даведалася шмат цікавага пра гэтага „Казанову". Змяняе дзяўчат, як рукавічкі, а ў хаце, як анёлак. Ціхі, паслухмяны, усе жончыны загады выконвае. Умее прыбіраць, робіць пакупкі, нават часта гатуе. Толькі эратычныя справы пакідае для знаёмых дзяўчат.

Мая сяброўка, яго жонка, на „пасцельныя" справы ніколі не скардзілася, а цешылася заўсёды, якога мае добрага і паслухмянага мужа. Відаць, даў рады надзяляць сваім пачуццём не толькі дзяўчат з вуліцы, але і жонку, якая жыла сабе спакойна, пра ўсё гэта нічагуткі не ведаючы.

І так, пражылі мы з мужам ужо дзевяць гадоў, сварачыся і спорачы за абы-што. Я сапраўды не адчувала ніякай віны, што часам нехта іншы зверне на мяне ўвагу. Пра свайго мужа я і не падумала ніколі, што гляне на іншую.

У апошні год, аднак, нешта мяне насцярожыла. Мы перасталі сварыцца, жывем спакойна і згодна. Муж мне заўсёды гатоў уступіць, не чапляецца ўжо да мяне за абы-што, не звяртае ўвагі нават тады, калі нейкі мужчына скача каля мяне ў кампаніі. На забаве, калі знойдзецца такі чалавек, дык ён нават задаволены, што можа танцаваць з іншымі. Памятаючы горкі вопыт маёй сяброўкі, я пачала непакоіцца, што, магчыма, і мой муж пачаў аглядацца па баках. Я ўжо не ўяўляю сабе, што можна жыць без канфліктаў, а, калі іх няма, дык, думаю, нешта ў нашым жыцці не ў парадку.

**Яніна**

Яніна! Не ўсе пачынаюць сямейнае жыццё ад сварак, але праўда і тое, што закаханыя людзі бываюць вельмі зайздросныя. З часам яны наогул супакойваюцца. Прычыны гэтага бываюць розныя. Адны прывыкаюць да жонкі і яна перастае быць для іх атракцыйнай. Ведаюць, што нікуды жонка не падзенецца, калі пастарэе і пабрыдчэе. А яшчэ калі пачне хварэць... І таму супакойваюцца, перастаюць быць зайздроснымі.

Думаю, што яны робяць памылку, бо жонкі ўсё ж любяць, каб мужыкі за іх біліся. А супакоіцца — дык і жонцы перастане падабацца. А тады... хто ведае!.. Так што не абавязкова твой муж пачаў „разглядацца па баках". Мо проста падарослеў і стаў рэагаваць на ўсё больш нармальна. Удаецца ж некаторым быць зайздросным культурна!

**Сэрцайка**